# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 24 (286) 21 — 27 чэрвеня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ





# МУЗЕЙ — НЕ РОВАР,

## КАБ ЯГО ВЫНАХОДЗІЦЬ

## МЕТАДАМ СПРОБ І ПАМЫЛАК

Каб выпрацаваць неабходную яго канцэпцыю, патрэбна шырокая дыскусія, гэты матэрыял і ёсць запрашэнне да яе.

Матэрыял чытайце на стар. 2.




"Ах, война, что ты сделала, подлая..." — калісьці напісаў Булат Акуджава, вялікі паэт, з якім мы толькі што развіталіся... Так, 22 чэрвеня 1941-га года пачалася гэтая жудасная эпапея — эпапея трагічная і мужная, і мы — памятаем пра гэтую вайну. Памятаем...

## ВЯНЕЦ КУПАЛАЎЦАЎ

На пачатку чэрвеня ў Маскве на сцэне тэатра на Пяроўскай адбываўся Міжнародны фестываль камерных спектакляў "Славянскі вянец". На фестываль прыехалі тэатральныя калектывы са Славакіі, Малдовы, Югаславіі, Украіны і іншых краін свету, а таксама з расійскіх гарадоў, у прыватнасці, Санкт-Пецярбурга і Смаленска. Нашу рэспубліку прадстаўлялі акцёры Купалаўскага тэатра, якія паказалі спектакль "Крывавая Мэры" па п'есе Д.Бойкі ў пастаноўцы Аляксандра Гарцуева.

Спектакль ішоў без перакладу. Купалаўцы сыгралі бліскуча, і гледачы літаральна "купалі іх у авацыях". Ігру Мікалая Кірычэнкі параўноўвалі з ігрой лепшых акцёраў знакамітай мхатаўскай школы, а Зоя Белахвосцік заслужыла ўсеагульнае захапленне не толькі гледачоў, але і журы, старшынёй якога быў вядомы тэатральны і літаратурны крытык Леў Аненскі. Пасля спектакля акцёраў літаральна засыпалі пытаннямі. Іна Аляксеева і Эдуард Трухмянёў годна прадставілі маладое пакаленне купалаўцаў, але больш за ўсё пытанняў адрасавалася рэжысёру спектакля Аляксандру Гарцуеву. І як вынік — "Крывавая Мэры" была адзначана на фестывалі дыпломам за лепшую рэжысуру, а Леў Аненскі вельмі высока ацаніў узровень нашай акцёрскай школы.

**Ірына КІРЫЛЮК,**
**рэдактар літаратурнай часткі Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы**

●

**17 — 18 чэрвеня** адбыўся нечарговы з'езд Саюза кінематаграфістаў. Тайным галасаваннем з'езд абраў новы склад праўлення БСК: старшыня — Ігар Волчак, члены праўлення — Юрый Гарулёў, Барыс Гарошка, Ігар Дабралюбаў, Уладзімір Гасцюхін, Аляксандр Карпаў-малодшы, Сяргей Сычоў, Валянціна Сцяпанава, Святлана Сухавей, Юрый Марухін, Юрый Цвяткоў, Юрый Хашчавацкі.

●

**20 чэрвеня 1997 года** ў Віцебску адбылося ўрачыстае адкрыццё II Міжнароднага сімпозіума-пленэру імя Марка Шагала, прысвечанага 110-й гадавіне з дня нараджэння нашага славутага земляка, вялікага мастака XX стагоддзя. У пленэры прымаюць удзел вядомыя мастакі Беларусі, Польшчы, Францыі, Ізраіля, Германіі, Швейцарыі, Грэцыі.

# К КУЛЬТУРА

# МУЗЕЙ — НЕ РОВАР, КАБ ЯГО ВЫНАХОДЗІЦЬ МЕТАДАМ СПРОБ І ПАМЫЛАК

(Пачатак на стар. 1)

Калегія Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь прыняла рашэнне аб стварэнні Беларускага музея сучаснага мастацтва. Культурная грамадскасць не можа не вітаць гэты крок, бо пытанне — сапраўды балючае, і абмяркоўвалася яно даўно на розных узроўнях і ў розных інстанцыях.

Беларусь, відаць, ці не адзіная краіна ў свеце, дзе няма музея нацыянальнага мастацтва. Але разам з тым трэба адзначыць, што ў Мінску толькі ў сістэме Міністэрства культуры налічваецца каля 12 музеяў і ўстаноў музейнага тыпу. Найбуйнейшы сярод іх — Нацыянальны мастацкі, які валодае значнымі зборамі беларускага сучаснага, старажытнабеларускага мастацтва, мастацтва Расіі і Заходняй Еўропы, якія, на жаль, у асноўным знаходзяцца ў запасніках. Кожны з гэтых збораў мае падставы для існавання ў выглядзе самастойнага музея. Але гэта справа, відаць, далёкай будучыні. А пакуль не адно пакаленне беларусаў прайшло міма нацыянальнай мастацкай спадчыны.

Нарэшце добры пачатак зроблены, і хвала за гэта Міністэрству культуры. (Пакінем па-за дужкамі тое, што ў нас часам прынята разбураць дашчэнту, тое, што ўжо зроблена, каб стварыць нешта іншае.) Вось і цяпер кінатэатр "Беларусь" будзе перабудаваны пад выставачныя залы новага музея.

Якім жа будзе храм беларускага мастацтва, якая яго канцэпцыя?

Дыскусіі па гэтых пытаннях доўжацца як сярод мастакоў і прыхільнікаў мастацтва, так і сярод музейных спецыялістаў.

Аб накіраванасці будучага музея цікавыя думкі выказаў народны мастак Беларусі, прафесар Гаўрыла Вашчанка: "Мяркую, што ў Беларускім музеі сучаснага мастацтва знойдуць месца ўсе накірункі, якія існуюць у беларускім мастацтве сёння — ад рэалізму і сацрэалізму да авангарда. Зазначу аднак, што такі сучасны беларускі авангард, які будуецца на прынцыпах мастацкай плыні 20-х гадоў, зусім не авангард, а хутчэй ар'ергард. Цікава, што многія мастакі, скіраваныя да абстракцыі і расчлянення мастацтва, з узростам прыходзілі да неабходнасці псіхалагічнага і вобразнага адлюстравання. Так было з Паулем Клее, Фернанам Лежэ, Пабла Пікаса, Казімірам Малевічам. Ад гэтага яны не перасталі быць сучаснымі".

Падобнай пазіцыі прытрымліваецца і народны мастак Беларусі, прафесар Май Данцыг: "У новым музеі павінен знайсці месца зрэз беларускага мастацтва нашага часу, але ён не можа быць канцэптуальнай копіяй Нацыянальнага мастацкага музея".

А вось малодшае пакаленне лічыць інакш. На пытанне, якім адрэзкам часу акрэсліць вызначэнне "сучаснае мастацтва Беларусі", адзін з маладых мастакоў адказаў, што гэта — мастацтва "постперабудовачнае". Адлік яго можна пачынаць з 1992 года. Ён падкрэсліў, што сённяшнім 30-гадовым мастакам належыць будучыня. Іх светаўспрыманне, на яго погляд, заснавана на свабодзе мыслення, а творчасць нічога агульнага не мае з кан'юнктурай, як і з рэалістычным напрамкам у мастацтве.

Такія думкі не падаюцца дзіўнымі. Сапраўды, мы жывём у перыяд постмадэрнізму. Нейкі час на Захадзе пераважала авангарднае мысленне. Грамадства жыло ідэяй прагрэсу ў мастацтве, якая выказвалася ў адным перадавым накірунку — авангардным.

"Лінейны час" у нас быў парушаны воляй гісторыі. Мы спазняемся адносна еўрапейскіх параметраў. І тое, што на Захадзе лічыцца ўжо ўчарашнім днём, у нас толькі набывае пару квіцення. Сёння заходняя культура многацэнтравая, складаная. Грамадства стамілася ад монацэнтрызму. Лічыцца каштоўным мастацтва, якое не мае сінхронных аналагаў. Але, відаць, мы павінны перахварэць і поп-артам, і інсталяцыяй, і перфоменсам. Гэта таксама твор нашага часу.

На маю думку, пакуль канцэпцыя новага беларускага музея не распрацавана, ёсць сэнс узгадаць вопыт іншых, сусветна вядомых музеяў сучаснага мастацтва. Мы не настолькі багатыя, каб вынаходзіць веласіпед метадам спроб і памылак, калі ён даўно апрабіраваны.

Аб чым жа гавораць прыклады?

Усе буйнейшыя музеі свету канцэнтруюць сваю ўвагу на агульнафіласофскіх мэтах, такіх як: стварэнне цэнтра культурнага абмену і камунікацый, адраджэнне культурнай самабытнасці народаў, арганічнае адзінства з навакольным асяроддзем.

Прапануючы ідэі, якія абуджаюць да творчасці і прагрэсу, кіраўнікі не забываюць аб практычным падыходзе, менавіта аб тым, каб забяспечыць музей адпаведнымі запаснікамі, памяшканнямі для экспанавання, вывучэння, рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў мастацтва. А таксама прадугледжваюць высокі ўзровень кіраўніцтва музеем, кваліфікаваную дзейнасць персаналу, тэхнічную забяспечанасць.

Сапраўды, ва ўсім свеце адзначаецца роля музеяў як сілы, якая ўздзейнічае на развіццё грамадства. Безумоўна, як прадукт свайго часу, музеі адлюстроўваюць эканамічныя, сацыяльныя і палітычныя ўмовы грамадства. І тым не менш у іх дзейнасці вылучаюцца тры напрамкі — падтрымка ўсяго адметнага, пошукі новых крыніц ведаў, далучэнне розных колаў гледачоў да назапашанага багацця.

Напрыклад, большасць музеяў Злучаных Штатаў Амерыкі маюць у зборах пераважна творы амерыканскіх мастакоў.



Вось прыклад работы не зусім тыповага для Амерыкі Музея Гугенхейма ў Нью-Ёрку, які існуе 60 гадоў. Яго палітыка фармавалася паступова, на працягу дзесяцігоддзяў, і падпарадкоўвалася радыкальным зменам. Першая назва музея — "Музей абстрактнага мастацтва". Ён быў заснаваны ў 40-я гады на аснове калекцыі Саламона Р. Гугенхейма. Першы яго дырэктар і заснавальнік баранэса Хілла Рэбі ўяўляла сабе новую ўстанову як нешта ўзнёслае, як храм абстрактнага, беспрадметнага жывапісу. Такі рафінаваны напрамак праіснаваў нядоўга, бо не знайшоў падтрымкі гледачоў. Хутка ўстанова атрымала назву "Музея сучаснага жывапісу і скульптуры". Змянілася і канцэпцыя музея. Крытэрыем адбору твораў для калекцыі стала Якасць, а не стылістычны накірунак. Такім чынам, з элітарнага музейператварыўся ў прызначаную для шырокай публікі ўстанову. Адміністрацыйны Савет музея вызначыў яго новую місію як дыдактычную ў адносінах да гледача. Сёння гэта адзін з вядучых музеяў на планеце. Яго штогод наведваюць сотні тысяч чалавек. Да 1970 года музей існаваў на сродкі дзяржавы. Апошнім часам бюджэт установы складаецца з уласных прыбыткаў і прыватных ахвяраванняў.

У калекцыі музея — творы розных перыядаў і накірункаў: імпрэсіяністаў, постімпрэсіяністаў, прадстаўнікоў ранняга мадэрнізму, пасляваеннага часу і сучасных майстроў.

Так што першапачатковая калекцыя музея, дзе быў прадстаўлены адзін толькі аспект сучаснага мастацтва, перарасла ў буйны збор сапраўдных шэдэўраў, якія даюць шырокае ўяўленне аб развіцці жывапісу і скульптуры XX стагоддзя. Гэтыя творы набываліся музеем альбо паступалі ў якасці падарункаў. Галоўнай крыніцай папаўнення фондаў сталі выставы. Але ўсё гэта стала магчымым толькі пасля таго, як задачы музея былі вызвалены ад вузкіх эстэтычных канцэпцый, калі музей заняў аб'ектыўную пазіцыю адносна асноўных накірункаў сучаснага мастацтва. Выстава "50 гадоў камплектавання. Юбілейны паказ шэдэўраў" у 1987 годзе падцвердзіў слушны напрамак музея. Было паказана больш за 400 твораў, у тым ліку Пікаса, Сезана, Кандзінскага і інш. Зараз Саветам музея зацверджана яго міжнародная арыентацыя. Гэта знайшло адбітак у планах збіральніцкай і выставачнай дзейнасці.

Часта музей Гугенхейма папракаюць за тое, што ён стаіць у баку ад вострых праблем сучаснага авангарда і залішне доўга разважае перад тым, як прыдбаць альбо выставіць у сябе той ці іншы твор апошняга часу. Але гэтая пазіцыя разумная, бо ёсць мноства негатыўных прыкладаў паспешлівых адбораў сучасных твораў, якія потым толькі псавалі экспазіцыю.

Луізіянскі музей у Даніі таксама малады. Ён месціцца за 30 км ад Капенгагена ў Хумлебеку. Экспазіцыйная плошча каля 8000 кв. метраў. Ідэя музея, створанага ў парыжскім парку, — аб'яднаць прыроду і творы мастацтва. Тут прадугледжана ўсё для цудоўнага загараднага адпачынку. Пабудовы музея маюць выдатнае асвятленне, кандыцыянеры, ліфты, бібліятэку, канцэртную залу, дзе праводзяцца розныя культурныя мерапрыемствы, у тым ліку канцэрты сучаснай і класічнай музыкі, драматычныя спектаклі, вечары паэзіі, сустрэчы з дзеячамі мастацтва. Ёсць кафетэрый. Але першаснае месца займае ў дзейнасці ўстановы выставачная палітыка. Музей прытрымліваецца прынцыпаў плюралізму, ставіцца задача абудзіць цікавасць да музея ў розных слаёў насельніцтва. У кожнага твора тут ёсць свая "тэрыторыя". Практыкуецца сучасная свабодная развеска карцін.

Цікавы вопыт Музея Цэнтральнага дзяржаўнага банка Эквадора — дзяржавы так званага трэцяга свету. Музей створаны 40 гадоў таму, мае канцэпцыю, заснаваную не толькі на традыцыйных функцыях камплектавання, кансервацыі, камунікацыі, даследавання і экспазіцыйнай дзейнасці. Галоўная мэта музея спалучана з развіццём культуры Эквадора. Кіраўнікі музея лічаць, што народ павінен ведаць свае карані, што трэба даць магчымасць кожнаму адкрыць для сябе найбагацейшую культуру ўласнай краіны. Разам з тым ставіцца задача далучэння народа Эквадора да сусветнай культуры. Таму музей стаў тым месцам, дзе судакрануліся нацыянальная культура і культуры іншых народаў свету. Музей мае 2600 кв.м. плошчаў, сховішчы, рэстаўрацыйныя майстэрні, лекцыйныя залы, залы адпачынку і інш. Кіраўнікі яго аддаюць вялікую ўвагу павышэнню кваліфікацыі і навучэнню персаналу, прадастаўляюць стыпендыі для вучобы за мяжой. Стварэнне такога музея — доказ таго, што культура і эканоміка могуць быць непадзельныя.

Тут якраз час вярнуцца да нашага музея. Каб выпрацаваць неабходную яго канцэпцыю, патрэбна шырокая дыскусія (гэты матэрыял і ёсць запрашэнне да яе). Патрэбны прагматычны погляд — улік фінансавых магчымасцяў дзяржавы. Відавочна, што невялікія плошчы будынка прымусяць кіраўніцтва музея звузіць рамкі камплектавання да некалькіх відаў мастацтва. Напрыклад, калекцыя музея можа складацца толькі з жывапісу і пластыкі малых формаў (нельга ж "объять необъятное"). Але музей павінен, як мінімум, мець канцэртную залу для культурных мерапрыемстваў і для ажыццяўлення праграмы сінтэзу мастацтваў, галоўная мэта якой — арганізацыя працы з гледачом.

Толькі такі музей мае права называцца сучасным.

**Ларыса САЛАВЕЙ,**
**мастацтвазнаўца**

# КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА ТОЕ, ЧАГО НЕСТАЕ...

Гэтых людзей я не "замаўляў", яны сустрэліся мне па дарозе ў рагачоўскі гарвыканкам, дзе мяне чакалі дзве сімпатычныя жанчыны — намеснік старшыні выканкама Рыма Генадзеўна Ястрэмская і загадчыца аддзела культуры Алена Юр'еўна Марма: у нас быў прызначаны міні-"круглы стол" па пытаннях культуры Рагачова "на сённяшні дзень". Калі шчыра, дык асноўную праблему культуры на прасторы "ад мора да мора", а не толькі на Беларусі, я ведаў і без размовы з гэтымі мілымі спадарынямі (і вы таксама яе ведаеце): няма грошай. Мяне ж цікавіў дух, атмасфера, настрой — якія яны? Без наяўнасці гэтага (са знакам "+" і некаторай долі фанатызму і вар'яцтва) проста немагчыма займацца "песнямі ды скокамі" пасярод не самага лепшага ў гісторыі нашай краіны часу.

І вось, ідучы на сустрэчу да "мацярок горада", я вырашыў наладзіць спантаннае мікраскапічнае сацыялагічнае апытанне. Прахожыя адказвалі на два пытанні: "Што такое культура?" і "Як Вы бавіце вольны час?"

Пасля чацвёртага адказу я адчуў, што ўражанняў мне ўжо досыць. Бо акрамя словаў, былі яшчэ інтанацыя і выраз вачэй... Юнак паводзіў сябе няўпэўнена і збянтэжана, "інжынерка" — спакойна і пераканана (я чамусьці падумаў, што ў яе жыцці — і ў працоўным, і ў асабістым — усё ў парадку). А ветэран і асабліва даярка-пенсіянерка (мне так здалося) шкадавалі мяне. Чым я выклікаў гэтае пачуццё — не ведаю. Магчыма, тым, што займаюся, з іхняга пункта погляду, справай эфемернай, "неадчувальнай", лёгкай у параўнанні з працай на вайне альбо ў хлеве, альбо хаця б у параўнанні з рамонтам цеплатрасы.

Што яна такое, культура, у наш "весяленькі" час? Узгадаўся анекдот. Тэлефанаванне: "Гэта пральня?" Адказ: "Якая, чорт цябе бяры, пральня, дурань! Гэта міністэрства культуры!" Хіба на лёгкай працы так здзічэеш?!

***Зоя Каранькова, інжынер** (калі папытаўся, колькі ёй гадоў, адказала: "Яшчэ маладая").*

Культура — гэта прырода чалавека. Я лічу, што культура даецца нам ад нараджэння, а выхаванне толькі спрыяе яе развіццю альбо штосьці аднімае. Культуру цяжка выхаваць. Лягчэй пабудаваць завод. Чалавек павінен быць цікавым для чалавека, і прырода клапоціцца пра гэта. (На другое пытанне інжынер адказаць не паспела, прыйшла машына — і Зоя Каранькова паехала, забіраючы з сабою арыгінальнае меркаванне пра прыроду культуры.)

***Саша, навучэнец ПТВ № 150, 18 гадоў, будучы электрык.***

1. Гэта ўсё пражытае і тое, як яно пражыта. Тое, што застаецца пасля нас.

2. Цяпер няма вольнага часу — пішу дыплом, а калі быў вольны час, дык любіў бавіць яго ў вясёлай кампаніі.

***Іваноў Мікалай Паўлавіч, пенсіянер, 80 гадоў, удзельнік вайны, ветэран працы.***

1. Мастацкая культура, тэатр, кіно. У мінулым гэта займала сваё пэўнае месца ў маім жыцці. А цяпер — якая культура, калі ўжо тыдзень у горадзе няма гарачай вады. Палітыкі ў нашым жыцці стала вельмі шмат, а культуры... вельмі мала.

2. Быў захоплены рыбалкай, чытаў, хадзіў у кіно. Цяпер — з раніцы да вечара — толькі тэлевізар. Але і там культуры — няшмат.

***Марыя Макараўна, 65 гадоў, даярка, пенсіянерка.***

1. Культура? Гэта — прыгожы чалавек. Людзі, парадак, грошы. Жыццё цяпер кепскае, раней было лепей. Якая культура без грошай?

2. Дзе ён, вольны час? Я на пенсіі, але як раней працавала з раніцы да вечара, так і цяпер працую: карова, бульба, парсюкі... То дзяцей трэба было гадаваць, а цяпер — унукаў. Гадзінку перад сном на лаўцы пасяджу — вось і ўся мая культура.

Перад пачаткам размовы (шукалі месца, дзе прысесці — знайшлі ў зале пасяджэнняў) Рыма Генадзеўна ўзгадала словы паэта пра тое, што "душа обязана трудиться", і дадала ад сябе: "Чым больш экстрэмальныя ўмовы, тым больш яна абавязана працаваць". Калі паселі за вялікі стол пасяджэнняў (выдатная, яшчэ "камуністычная" зала, і стол таксама — выдатны), гаворка адразу пайшла пра тое, што культура павінна ва ўмовах духоўнага вакууму запаўняць гэтую пустату і ўтрымліваць людзей на "чалавечым" узроўні. "Больш цяпер няма чым", — прыйшла жанчына да сумнай высновы. Яны дружна і патрыятычна нагадалі мне пра тое, што ў Рагачове, адным з самых старажытных у сэнсе культуры і шчодрым горадзе ("ён, паводле Караткевіча, — самы беларускі горад"), агульны духоўны ўзровень быў заўсёды высокі: гэта горад пісьменнікаў і паэтаў (ён натхніў шмат прадстаўнікоў літаратуры, сярод якіх, акрамя Караткевіча, — Лынькоў і Макаёнак, Сурначоў і Жаўрук, Галкін і Зарыцкі), мастакоў, скульптараў, навукоўцаў... Тут сотні гадоў таму закладваліся культура землекарыстання і разумнага гарадскога будаўніцтва; на гэтай зямлі мірна і па-сяброўску жылі людзі розных нацый і веравызнанняў. "Культура будавалася на чалавечых стасунках, — сказала намеснік гарадскога галавы Ястрэмская. — Нездарма памяць пра высакародных і дабрадзейных Іолшыных адбілася сёння ў заснаванні прэміі іхняга імя. У нашыя дні ўзгадваць пра кіраўніка павятовага дваранства, які 30 гадоў "кіраваў" горадам і столькі зрабіў для яго, — пагадзіцеся, гэта здараецца не ў кожным, нават вельмі культурным месцы".

**Алена МАРМА:** Сёння Рагачоў мае яшчэ адну сваю прэмію — "Залаты Рог". Яе надаюць па некалькіх намінацыях за дасягненні ў культуры і спорце.

**Рыма ЯСТРЭМСКАЯ:** Калі ўсур'ёз казаць пра культуру Рагачова, трэба пісаць кнігу. Для газеты, напэўна, важныя сённяшнія яе праявы і яе ўздзеянне на людзей ў цяжкія для іх часы. Прэміі — гэта вынік, а перад гэтым — амаль немагчымая праца энтузіястаў у творчых калектывах, якія падвышаюць свой узровень, паляпшаюць праграмы. І гэта — у наш час!

**А.М.:** У нас у культуры — маладая каманда. Яе энтузіязм спалучаецца з вопытам ужо "рэдкіх" старых, але якіх! Да прыкладу, неўзабаве будзем адзначаць 35-годдзе народнага тэатра, якім усе гэтыя гады кіруе Аляксей Ігнатавіч Сількевіч. Мы рызыкуем — і перамагаем: памянялі кіраўніцтва Дома культуры, дзе працуе маладзёжны народны тэатр, новастворваны ансамбль бальнага танца і народны маладзёжны эстрадны тэатр мініяцюр. У музычнай школе — народны аркестр рускіх народных інструментаў. Тры званні атрымалі калектывы толькі за адзін год! Я гэтым ганаруся. Але і разумею, што без традыцыйнай дапамогі выканкама наўрад ці здолелі б мы гэта здзейсніць.

**Р.Я.:** Алена мае рацыю. Хіба змаглі б калектывы так абнавіць свой рэпертуар, калі б, скажам, той жа ансамбль "Надзея" пры школе мастацтваў не пабываў ужо некалькі разоў на міжнародным фестывалі "Ціхвінскі Лель". Узровень, стасункі, вучоба і — новы ўзровень.

**А.М.:** Калі б у мяне папыталіся, што сёння для нас з'яўляецца галоўным, я б адказала: інтэлігентны рэпертуар. І беларускі, і вельмі прыгожы. А калі ўлічыць, што ў той жа "Надзеі" няма свайго памяшкання для рэпетыцый і няма ніводнай капейчыны на касцюмы... Вы захацелі пачуць пра праблемы? Вось вам і праблемы.

**Р.Я.:** Усё можна вырашыць, і мы вырашаем. Не вырашаецца толькі фінансавая праблема. Мы жывем з жаб-

Прыватызацыя... славы

# ЗА РАДКАМІ АДНАГО ЗАКАНАДАЎЧАГА АБЗАЦА

Ніколі ніякае жыццё нельга ўкласці ў трывалае заканадаўчае рэчышча. Прычын на тое некалькі. Першая ў іх шэрагу — закон не з'яўляецца ідэальна прыладжанай да жыцця схемай. Нездарма ж з году ў год адбываюцца змены ў заканадаўчай практыцы. Нездарма ж уносяцца ў існуючыя, здавалася б, усё ўлічыўшыя законы дапаўненні і ўсялякія там папраўкі. Сённяшні час асабліва на іх багаты. Таксама зразумела чаму. У грамадстве, у яго сацыяльна-эканамічных варунках адбываецца як быццам пераход да новага ладу жыцця. Праўда, палітычная расхрыстанасць, пэўная нявызначанасць уладных памкненняў не дазваляюць адназначна сказаць, што нас чакае наперадзе. Між тым, не след тут вінаваціць агулам улады. Яны, улады, — заўсёды адлюстраванне народнага меркавання пра будучыню. Значыць, пакуль няздольны вызначыць, дакладна спраектаваць нашу, нашых наступнікаў будучыню і народ.

Ды ўсё ж такі і народ, нягледзячы на ўсялякую там нявызначанасць, чакае гарантаваных змен. Тых, якія б былі загадзя абумоўлены, прадвызначаны законам. Аглядаемся наўкола, і ці не першым клопатам у грамадскім, сацыяльна-эканамічным руху наперад з'яўляецца перад намі пытанне прыватызацыі. Кіньце погляд у суседнюю расійскую прастору — уся палітыка, усе палітычныя і грамадскія сімпатыі закручаны толькі вакол тых альбо іншых падыходаў да прыватызацыі.

Здавалася б, на Беларусі ўсё прасцей. Бутэрброды з чорнаю ікрою ўжо падзялілі і досыць пасляхова. Батон, на якім ляжала тоўстым, ладным кавалкам масла, таксама знаходзіцца ў дастойных як быццам руках. Застаўся чорны хлеб, месцамі засталося і сала. Праўда, калі пачнем вось гэта апошняе дзяліць, то, будзьце ўпэўнены, дзяльба будзе нагадваць класічны, літаратурай і кінематографам зафіксаваны падзел буханкі хлеба і кавалачка сала ў нямецка-фашысцкім канцлагеры.

І ўсё ж пэўныя законы ў нашым грамадстве дзейнічаюць. І не толькі тыя, што ашчаслівілі нас чэкамі "Маёмасць". Ёсць яшчэ і Закон Рэспублікі Беларусь ад 16 красавіка 1992 года "Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь". Няма сумненняў, важны і дзейсны дзяржаўны дакумент, як і ўся, між іншым, айчынная заканатворчасць. Ды толькі пяцігодка сацыялістычнай... прабачце, постсацыялістычнай рэчаіснасці паўплывала і на яго, 1992 года, сутнасць, бо як іначай растлумачыць тыя многія акалічнасці, што нават не разглядаюцца ў існуючым законе. Пра акалічнасці ўзгадваюць многія — і вайскоўцы, і жыхары забруджаных радыенуклíднымі рэчывамі раёнаў, і шмат хто яшчэ...

Рэчаіснасць і падштурхнула айчынных парламентарыяў да стварэння новага юрыдычнага (пакуль ён існуе ў форме праекта) дакумента, які так і называецца Закон Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у законы Рэспублікі Беларусь аб прыватызацыі жыллёвага фонду". Чаму такая раптоўная і пільная ўвага да законапраекта ў культуралагічным плане? Ёсць у будучым законе (спадзяёмся, што ён будзе прыняты і падпісаны, зацверджаны пасля адпаведна Прэзідэнтам) адзін абзац. Гучыць ён наступным чынам: "Дамы (кватэры), якія з'яўляюцца гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі, прыватызуюцца пры ўмове падпісання грамадзянамі (удзельнікамі прыватызацыі) ахоўнага абавязацельства, выдадзенага Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь".

Абзац, пагадзіцеся, істотны. Хаця ўжо ў тым кантэксце, што стварае перадумовы для цывілізаванага вырашэння многіх канфліктаў, якія яшчэ наперадзе на мяжы ўваходжання Беларусі і беларускай культуры ў цывілізаваную будучыню. Звычайна практыка жыццядзейнасці гісторыка-культурных каштоўнасцяў ці, прасцей кажучы, памяшканняў, збудаванняў, прыналежных прыватным асобам, была досыць простая. Сыходзіць зорка з жыцця, пакідае нашчадкам пэўнае жытло. Дзяржава жадае, нашчадкі толькі ўдзячныя ёй, зрабіць у пэўных кватэрах, доме музей. Пры гэтым прапаноўвае прапісаным на гістарычна-каштоўнай, так бы мовіць, плошчы жыльцам (разумейце: нашчадкам) новыя кватэры. Магчыма, ні кропелькі не горшыя, чым іх мемарыяльнае ранейшае жыллё. Тым самым пытанне вырашаецца. Ранейшае жыллё нікому і прыватызаваць не трэба. Дзяржава забірае яго сабе. Міністэрства культуры робіць усё магчымае, каб зрабіць у памяшканні, насычаным творчай аурай, музей.

Як быццам не так ужо дрэнна было і раней. Але агледзьцеся наўкола. Скажыце, колькі ў нас музеяў, кватэр-музеяў, мемарыяльных кватэр і яшчэ якіхсьці месц, што годным чынам захоўваюць культуралагічную прастору, затрымліваюць у сабе час? Мемарыяльны музей Якуба Коласа, музей Петруся Броўкі ў яго кватэры... Яшчэ, магчыма, калі можна так сказаць, пашчасціла памяці Андрэя Ануфрыевіча Бембеля... Мо, яшчэ Заіра Азгура... А што з памяццю вялікага пісьменніка Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча? Што з памяццю вялікіх мастакоў, вечных майстроў Анатоля Анікейчыка, Селешчука?.. А былі ж іхнія майстэрні. У руках камерсантаў — багатая на падзеі і сустрэчы кватэра Ларысы Пампееўны Александроўскай. Цікава, ці задумваюцца новыя гаспадары яе творчай аўры, як, наколькі цікавым і шматгранным бывае духоўнае і творчае жыццё? Я асабіста думаю пра тое, што цяжка было б уявіць акт куплі-продажу дома, сядзібы Льва Мікалаевіча Талстога.

Безумоўна, дзяржава, улады на ўзроўні першага горада краіны могуць апраўдацца: маўляў, такі ўжо сёння час, што дужа цяпер не разгонішся. Што музеі ў кватэрах усіх адышоўшых з жыцця членаў пісьменніцкай, прыкладам, арганізацыі не зробіш. І не рабіце. Ва ўсіх не трэба. Але ж і надалей шырыць мемарыяльную беднасць горада — бяздумна, бязглузда. Мяркуеце, што пахавалі, ушанавалі некралогам і досыць? А як жа з выхаваннем духоўнасці, як жа з фармаваннем культуралагічна-мемарыяльнай прасторы? Як быць з гэтым... Для ўлад у прапанаванай распрацоўшчыкамі (а яны перш-наперш складаюцца з людзей, аб'яднаных у Беларускую асацыяцыю "Нерухомасць") новага законапраекта пастаноўцы хаваецца як быццам выйсце. Пакінуўшы ўласнікам права на прыватызацыю жылля знакамітых суродзічаў, улада, адпаведныя культурніцкія ўстановы маглі б вырашыць праблему наступным чынам. Больш інтэнсіўна, зыходзячы, безумоўна, з вызначэння грамадскай каштоўнасці, надаваць шырэй жыллю знакамітых людзей статус гісторыка-культурных каштоўнасцяў, падпісваць са спадчыннікамі пісьменнікаў, музыкантаў ахоўныя дамовы. Крок не такі ўжо і складаны ў тэхнічным, эканамічным плане, затое досыць адказны ў маральным. І, дарэчы, не толькі для спадчыннікаў, але і для дзяржавы. Улады, магчыма, сплануюць перспектыўнае жыццё мемарыяльных кватэр з разлікам, што праз год-два, няхай сабе і праз сацыялістычную пяцігодку ў кватэры, доме з'явіцца музей.

Дарэчы, узнікае ў размове пра прыватызацыю гісторыка-культурных каштоўнасцяў яшчэ адна істотная акалічнасць. Яе падказвае заходні вопыт. Там нават прыватніку дазваляюць помнік набыць. І прытым за нейкія мінімальныя грошы. Але затое пэўныя абавязкі ўскладаюцца на прыватнага гаспадара. І па захаванні помніка, і па яго рэстаўрацыі. І нават па прадастаўленні гэтым прыватнікам часу для наведвання, азнаямлення з помнікам. І гэта таксама пытанне для развааг.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

рацкага бюджэту і з міласціны нашых прадпрыемстваў. Ім — нізкі паклон.

**А.М.:** Вы ведаеце, гэта здзіўляе... Я ж самы малады "начальнік" культуры ў вобласці. Я баялася хадзіць у кабінеты кіраўніцтва і ішла толькі таму, што гэта было патрэбна справе. І высветлілася, што ў Рагачове да мяне ставяцца па-чалавечы. Нават фінансісты на мае просьбы адказваюць не "на, задавіся!", а слухаюць і, як могуць, дапамагаюць. Я адчуваю іхнюю асабістую зацікаўленасць. Гэта — дорага каштуе.

**Р.Я.:** Мы з Ленай прыйшлі да вас пасля нарады: размаўлялі пра свята горада, што мае адбыцца 3 ліпеня. Спакойна, па-дзелавому, зацікаўлена... А я ж памятаю, калі спрабавалі змяніць стаўленне да культуры, спажывецкія да яе адносіны (зрабіце нам прыгожа — і ўсё!), было не так. У нас кожны панядзелак у выканкаме наладжваюцца апаратныя нарады. На іх прысутнічаюць кіраўнікі прадпрыемстваў. І вось, калі абмяркоўвалася пытанне пра чарговае свята, чуліся рэплікі з месцаў: "Нешта ў нас святаў зашмат...", "Калі працаваць будзем?". На шчасце, наш старшыня, Мікалай Іванавіч Федаровіч (шмат што сёння ад кіраўніцтва залежыць) — кіраўнік з "чалавечым тварам" і душою. Ён разумее, што калі яшчэ і святы страціць — дык мы апынемся ў духоўным тупіку, дзе і вытворчасць не здолее выжыць. Дарэчы, Федаровіч і сам іграе і добра спявае, ён эмацыйны і адкрыты. І вось ён адказвае кіраўнікам: "Няма свята — няма працы". Пішчаць, але — дапамагаюць. Але потым дзякуюць, калі бачаць у зале, на плошчы твары сваіх рабочых.

**А.М.:** Мэр падтрымлівае кожную справу, што ўзнімае настрой людзей. Цяпер з ягонай ініцыятывы рыхтуецца яшчэ адна праграма накшталт фестывалю "Асобы года". Пераможцы — вытворчыя калектывы і людзі горада. Намінацыі наступныя: "За стварэнне лепшай сацыяльнай інфраструктуры", "За арганізацыю сеткі крамаў", "За арганізацыю эфектыўнай тэлефоннай сувязі". Гэта не проста былыя "сацыялістычныя спаборніцтвы" — гэта фестываль працы, што доўжыцца цэлы год. А потым падчас уручэння прэмій і прызоў намінанты "Залатога Рога" даюць канцэрт для намінантаў "Асобы года". Культура праз нас ідзе да працоўных. Каб вы бачылі, якія прыгожыя і ўсмешлівыя прыходзяць яны ў гэтыя залы. Я так разумею культуру: гэта — людзі. І гаспадары, і госці адначасова.

**P.S.** Лена мае рацыю. Культура — гэта людзі. І тыя, хто ўвасабляе яе, і тыя, каму яна неабходная. А Рагачоў — гэта такое месца, дзе яна павінна існаваць.

**Навум ЦЫПІС**
*Мінск — Рагачоў — Мінск*

# "МОГІЛКІ" ВЕЙСЕНГОФА

## Зачынілася ў Русаковічах малая школка, і новае пакаленне дзяцей будзе думаць, што жыве ў малой і "нецікавай" вёсцы

17 траўня 1997 года былыя слухачы Варшаўскай паслядыпломавай гуманітарнай школы мастацтвазнаўства журналіст Сяржук Мінскевіч, паланістка Інэса Кур'ян і я ажыццявілі даўно задуманую вандроўку — аднадзённую экспедыцыю ў вёску Русаковічы Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці, дзе некалі стаяла сядзіба вядомага мастака і рэвалюцыянера Генрыха Вейсенгофа (1859 — 1922). Ён пражыў тут амаль 30 гадоў пасля вяртання ў 1874 г. сям'і, асуджанай за ўдзел у паўстанні 1863 г., з сібірскай ссылкі. Чаго толькі не было ў "Скарбцы" (такую мянушку атрымала малая сядзібка XVIII стагоддзя) у Генрыха Вейсенгофа! Старажытныя фамільныя партрэты І.Дамеля і Я.Рустэма, якія цяпер упрыгожваюць варшаўскі "Музей Нарадовы", значная калекцыя зброі, гравюр і знакамітага беларускага ўрэчскага шкла, карціны і скульптуры мінскіх, варшаўскіх і парыжскіх майстроў пачатку XX стагоддзя. Гэта быў своеасаблівы аазіс культуры прыгажосці сярод беднасці сялянскага жыцця. У 1918 годзе перад прыходам Чырвонай арміі Вейсенгофы з'ехалі ў Варшаву і перавезлі туды ўсю сваю бясцэнную калекцыю. Сумна, але ніводнага палатна Г.Вейсенгофа, гэтага паэта беларускай зямлі, які ўславіў яе ва ўсіх еўрапейскіх сталіцах, на Беларусі пасля вайны не захавалася. Вейсенгоф шчыра любіў сваё Русаковічы і тут напісаў самыя знакамітыя карціны — "Беларускія могілкі", "Снег", "Луг", "Старая сядзіба з медзведзянятамі", "Сплін", "Паляўнічыя з сабакам" і г.д.

Паглядзець на тыя мясціны выграшылі і мы праз 80 гадоў пасля ад'езду былых гаспадароў Русаковіч. Знайсці нейкую памяць пра іх праз столькі гадоў здавалася нерэальным, але ж...

Ад Мінска да Русаковіч усяго 60 км, і раней на конях гэты шлях пераадольвалі, напэўна, гадзіны за 4 — 5, мы ж дабраліся на электрычцы і аўтобусе роўна за дзве гадзіны .

І вось мы ў невялічкай вёсачцы (у старой частцы вёскі жывуць па адной бабульцы-пенсіянерцы). Усё знаёмае па апісаннях Р.Афтаназі: маляўнічыя берагі невялічкай Пцічы, мост праз яе (праўда, новы) ля шашы на Рудзенск. Злева на беразе павінна быць месца сядзібы. Тут цяпер стаяць новыя будынкі дач — месца зручнае, недалёка ад Мінска.

Зрабіўшы прывал на гістарычным месцы, цешыліся прыгажуняй Пцічу, назіраючы за купаннем вясковых хлапчукоў і статкам кароў на беразе — нязменнымі ва ўсе часы прыкметамі вясковага жыцця. Адпачыўшы, пайшлі на пошукі старажылаў. Народ у Русаковічах ветлівы, гасцінны: дачнікі-мінчукі паказалі нам шлях у старую частку вёскі, заўважыўшы, што мясціны гэтыя не вартыя ўвагі, нічым не цікавыя. Вёска — як і тысячы падобных на Беларусі. Няўжо так хутка сцёрлася памяць пра мінулае, памерлі ўсе старыя — сведкі гісторыі?

Новую і старую часткі Русаковіч падзяляе шаша Рудзенск — Шацк, з боку якой прытуліліся могілкі. "Могілкі старыя, адны ў Русаковічах", — паведамілі нам людзі. Гэтыя могілкі знакамітыя. Восенню 1886 года Вейсенгоф напісаў тут куток з занядбалымі паваленымі драўлянымі крыжамі. Гэтая рамантычная карціна, якая выклікала сум і пачуццё меланхоліі, прынесла славу маладому яшчэ мастаку, медалі ў Пецярбургу і Берліне.



І хоць дрэвы на могілках новыя, дух ягоны — стары, "вейсенгофавы". Захаваліся пахаванні 20 — 30-х гадоў, дзе ляжаць бясконцыя Шэлегі — старыя, але, мяркуючы па медальёнах, моцныя, карчакаватыя сяляне, якія жылі доўга і паміралі не ад хвароб, а ад старасці. Вось яны ўсе тут, нашыя "інфарматары"-старажылы... Старая частка могілак зусім занядбаная: мудрагелістыя галіны векавых дрэў прысыпаныя зямлёй і кантрастуюць чорнымі вычварнымі сілуэтамі з юнай зелянінай траўня, пападалі на зямлю старажытныя надмагільныя помнікі (надмагіллі). Забыццё і спакой: сонечны вясёлы праменьчык амаль не прабіваўся сюды, у гэтыя зялёныя джунглі. І раптам неверагоднае — на ляжачым надмагіллі, згарнуўшы старое лісце, мы чытаем папольску: "Вейсенгоф"! Эдвард Вейсенгоф, 24 гадоў ад роду, памёр у 1886 годзе. Сам Генрых пахаваны на Павонзках у Варшаве (хаця магілы ягонай я так і не знайшла). Гадаем, кім жа яму прыходзіўся гэты малады Эдвард? Хутчэй за ўсё, братам. Дык вось чаму "Беларускія могілкі" з'явіліся менавіта ў 1886 годзе! Астатнія надмагіллі сцёртыя і разабраць надпісы немагчыма.



Самая старая жыхарка Русаковіч — 87-гадовая бабуля Лісавета Білейчык на цудоўнай беларускай мове распавяла нам потым, як памёр гэты юнак — патануў у Пцічы, калі плаваў на лодцы ў непагадзь. Так ёй расказвалі родныя: цётка з дзядзькам, якія служылі ў пана — кухаркай і конюхам. Сама яна памятае пана "трошкі", ёй было толькі 9 гадоў, калі яны з'ехалі. Але да цёткі Барбары пані "вельмі ласкавая была: чытаць-пісаць вучыла, пасаг дала, калі шлюб брала. Як маці была". Памятае бабка Лісавета і прыгожы русаковіцкі сад: "Асабліва гаспадыня кветкі любіла, многа ў садзе прыгожых жоўтых кветак было. А сам гаспадар небагаты быў, усё за прыродай назіраў. Вей-сен-гоф звалі",— нечакана вымаўляе яна па складах цяжкае прозвішча. "Ведалі, што ён мастак, але карцін ягоных ніколі не бачыла. Бацька мне казаў, што калі ўсё тут пачалося (рэвалюцыя. — **Н.В.**), яны ўсталі рана і на лінейцы з'ехалі. Я малая была, спала. Бацька гаварыў, што пані нарвала букет вялікі кветак у садзе. Так з кветкамі і паехалі".

Што сталася са старажытнай русаковіцкай сядзібай, старажылы вёскі дакладна не памятаюць: спачатку там лікбез месціўся, потым "урад нейкі".

У вайну ў Русаковічах не засталося ніводнага дома — усё немцы папалілі. "Тут многа партызанаў было — лясы вакол". Згарэла і сядзіба Генрыха Вейсенгофа. Прысаду старых русаковіцкіх ліп высеклі пасля вайны, "доўга пні потым карчавалі". На гэтым месцы была канюшня, цяпер вось — дачы.

"Позна вы ўсхапіліся, усе, бадай, памерлі. А людзі старыя многа чаго памяталі, многа маглі б расказаць", — гаварылі нам на развітанне іншыя, маладзейшыя русаковіцкія бабулькі, седзячы па лаўках ля старых драўляных хацін.

Памруць і гэтыя бабулькі, знікне зусім памяць аб гісторыі Русаковіч — прыгожай беларускай мясціне, якую так любіў і якую абяссмерціў мастак. Зачынілася ў Русаковічах малая школка, і новае пакаленне дзяцей будзе думаць, што жыве ў малой і "нецікавай" вёсцы.

Можа, на месцы той драўлянай сядзібы каля шашы паставіць хоць камень у гонар лірыка — мастака гэтых мясцін? Каб людзі не страчвалі памяць аб мінулым...

**Надзея ВУСАВА**

*На здымках:*
*(злева направа) Г.Вейсенгоф, І.Урублеўскі і невядомы мастак. Русаковічы. 1900-я гады.*
*Г.Вейсенгоф. "Беларускія могілкі. Русаковічы". Палатно, алей.*

№ 24 21 — 27 чэрвеня 1997 г.
MULTUM IN PARVO

# "ЯК БЫЦЦАМ ІХ СВЯЦІЛЫ ВЫСЯВАЮЦЬ..."

***(Да ўшанавання стыпендыятаў спецыяльнага фонду па падтрымцы таленавітай моладзі)***

12 чэрвеня ў Маладзёжным тэатры эстрады адбылося ўрачыстае ўручэнне пасведчанняў стыпендыятам спецыяльнага фонду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.




Спецыяльны фонд быў створаны згодна з указамі прэзідэнта № 473 ад 20 лістапада 1995 года "Аб падтрымцы таленавітай моладзі" і № 18 ад 12 студзеня 1996 года "Аб спецыяльным фондзе...". На працягу 1996 года савет фонду, зацверджаны прэзідэнтам, адбіраў годных прадстаўнікоў творчай моладзі сярод юных мастакоў, паэтаў, музыкантаў і кампазітараў. У склад савета ўвайшлі найбольш значныя асобы, вядомыя ў галіне педагогікі мастацтваў. Узначальвае савет народны артыст СССР Мікалай Яроменка.

Кандыдаты на стыпендыі вылучаліся сярод навучэнцаў творчых установаў па ўсёй краіне і нават сярод тых, хто вучыцца за яе межамі, па прадстаўленні ўпраўленняў культуры. Сярод стыпендыятаў — дзеці і маладыя людзі ва ўзросце ад 10 да 35 гадоў, а геаграфія іх паходжання ахоплівае ўсю краіну ад гарадскіх пасёлкаў — да сталіцы. Кожны з дваццаці шасці атрымалі стыпендыі ў памеры чатырох мільёнаў рублёў свабодных ад падаткаў, каб выкарыстаць іх на свае патрэбы з мэтай далейшага творчага ўдасканалення. Сярод стыпендыятаў: два паэты, дзве балерыны, чатыры мастакі, кампазітар і музыканты — баян, домра, балалайка, цымбалы, труба, фартэпіяна, габой, саксафон, скрыпка і віяланчэль. Большасць з іх — лаўрэаты шматлікіх, у тым ліку — і міжнародных конкурсаў, стыпендыяты міжнародных фондаў.

Пераканацца на ўласныя вочы ў таленавітасці беларускай моладзі здолелі тыя, хто застаўся на канцэрт па заканчэнні ўрачыстай цырымоніі. Віртуознасць — слова, якое больш падыходзіць да сталых музыкантаў-прафесіяналаў. Але менавіта віртуознасць выканання прадэманстравалі віяланчэліст Мікаэл Самсонаў з Мінска і палачанка Кацярына Лаўрова на домры. Надзвычайнай эмацыянальнасцю вызначыўся цымбаліст Міхаіл Лявончык — нібы чарадзей, ён варажыў над струнамі, выклікаючы фантазійныя перапевы народных мелодый. З адмысловай натхнёнасцю спявала цыганскія напевы Пабла Сарасатэ скрыпка ў руках Арцёма Шышкова. Амаль размаўляў з чапурыстым белым раялем Павел Ялецкі з Маладзечна, размаўляў строга, нават хмура, і ўрэшце раяль скарыўся, адказаў пакутліва-трапяткой Лістаўскай рапсодыяй...

Што чакае надалей гэтых выдатных выканаўцаў, творцаў? Цяпер цяжка прадбачыць, кожны вольны абраць свой лёс... Прыгаданы Мікаэл Самсонаў ужо ў гэтым годзе пры дапамозе Брытанскага Савета атрымаў магчымасць вучыцца ў музычным каледжы ў Лондане. Ірына Цымбал, адна з узнагароджаных, скончыўшы харэаграфічны каледж і нават станцаваўшы некалькі партый у Нацыянальным тэатры балета, разглядае прапанову Рыжскага тэатра. Паэт Андрэй Скарынкін, чый радок узяты за назву гэтага артыкула, займаецца на вышэйшых Літаратурных курсах у горкаўскім Літаратурным інстытуце ў Маскве...

Пакуль не бяднее талентамі беларуская зямля, але ж і таленты павінны быць заўважаны і падтрыманы. Напэўна, на гэта і разлічана праграма дзейнасці спецыяльнага фонду, першыя стыпендыяты якога адчулі рэальную дапамогу дзяржавы.

**Ігар КЛОКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ПАСТАВІЛІСЯ ПА-ФІЛАСОФСКУ

У 1996 годзе пабачыў свет вучэбны дапаможнік "Філасофія" (аўтары Л.Краўчанка, М.Мартынаў, Р.Бліхар, С.Вінакурава).

На першы погляд, гэта не тая падзея, на якой трэба засяроджвацца — колькі самых розных дапаможнікаў выпускаюцца ў свет нашымі выдавецтвамі. Але возьмем пад увагу, што перад намі адна з першых кніг па філасофіі, напісаная па-беларуску. Гэта па-першае. А па-другое — гісторыя беларускай філасофіі займае ў ёй пачэснае месца.

Тэма "Філасофская думка Беларусі" асэнсоўваецца з перыяду X — XI стст., калі нараджалася беларуская дзяржаўнасць. Першыя элементы філасофскай культуры беларусаў знаходзяць сваё адлюстраванне ў прытчах і абрадавых гімнах, казках і былінах. У X — XI стст. з'яўляюцца першыя літаратурныя помнікі — зборнікі фрагментаў твораў антычных філосафаў, якія разважаюць над праблемамі этыкі, эстэтыкі, агульнай псіхалогіі.

Мы можам ганарыцца помнікамі пісьмовай культуры Беларусі. "Супрасльскі рукапіс", "Тураўскае евангелле", "Дзіоптра" і г.д. — наша вялікая нацыянальная спадчына. Дарэчы, рукапіс "Дзіоптра" ўключаў у сябе ўсе асноўныя хрысціянскія ідэі аб чалавеку, яго месцы ў свеце, духоўных каштоўнасцях ("... усё звязана з часам, тое, што прамінула, ужо не існуе, тое, што ёсць, імгненна, а будучае непрадказальнае і невядомае").

Шмат месца ў "беларускай тэме" аддадзена філасофскай спадчыне Францішка Скарыны. Завершваецца аналіз наступнымі словамі: "Заслугай Скарыны з'яўляецца і тое, што свае погляды ён распаўсюджвае на беларускай мове і тым самым садзейнічае развіццю нацыянальнай культуры". Аўтары дапаможніка аналізуюць філасофскую думку Беларусі ў самыя розныя перыяды яе гісторыі і ў кантэксце сусветнай філасофіі. Таму гэтая кніга, напісаная ў адпаведнасці з праграмай выкладання філасофіі ў ВНУ, будзе карысная ўсім, хто цікавіцца філасофіяй як беларускай, так і сусветнай.

**Леанід ЦЫГАНКОЎ**

# МАСТОЎШЧЫНА — У БУДУЧЫНЮ ПРАЗ ВЕДАННЕ МІНУЎШЧЫНЫ

Краязнаўчы воблік таго альбо іншага краю, таго альбо іншага рэгіёна часам невядомы ці вядомы абывацелю ў агульных, самых недакладных абрысах. Бываючы дома, выпадковым спадарожнікам расказваю розную як быццам драбязу пра знаёмыя людзям мясціны. Здзіўляюцца, што не ведалі раней, цяплеюць тварамі. Бачу, што пасля такіх вось невялікіх адкрыццяў людзі святлеюць, духоўна багацеюць.

... Шмат багацейшымі сталі нядаўна мастаўчане, якія прыйшлі паслухаць выступленні навукоўцаў, даследчыкаў на навукова-краязнаўчай канферэнцыі "Мастоўшчына: старонкі гісторыі краю". А наладзілі гэтае мерапрыемства Мастоўскі раённы выканаўчы камітэт, Інстытут гісторыі АН Беларусі, кафедра гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, а таксама Гродзенскі абласны і Мастоўскі раённы савет Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Адметна, што тон правядзення канферэнцыі задало выступленне з дакладам "Сучаснае становішча эканомікі і сацыяльна-культурнага жыцця ў Мастоўскім раёне" старшыні Мастоўскага райвыканкама Аляксандра Кісялёва. Намеснік рэдактара раённай газеты "Зара над Нёманам" Аляксей Сабасцян выступіў з дакладам "Народжаны Нёманам старажытны горад Масты: да гісторыі ўзнікнення і развіцця". Рэвалюцыйнаму і нацыянальна-вызваленчаму руху на Мастоўшчыне ў 1920 — 1939 гг. прысвяціў свой даклад прафесар кафедры гісторыі і культуры Беларусі Гродзенскага універсітэта імя Я.Купалы Іван Коўкель. З цікавасцю слухалі настаўнікі, усе госці канферэнцыі і многія іншыя выступленні. Праца канферэнцыі адбывалася па секцыях.

Адна з секцый так і была названа — "Культуралагічныя аспекты гісторыі краю". Відавочна па ўсім, што на Мастоўшчыне апякуюцца духоўным воблікам сваёй старонкі.

**Уладзімір СТАТКЕВІЧ**

# ЦЭНТР КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

Вось ужо год, як пры адзінаццатай бібліятэцы г.Гомеля адкрыўся і паспяхова працуе культурна-духоўны Цэнтр імя Кірылы Тураўскага. У рабоце цэнтра выкарыстоўваюцца цікавыя і нетрадыцыйныя формы мерапрыемстваў: сустрэчы са святарамі, супрацоўнікамі краязнаўчага музея, завочныя падарожжы па гістарычных мясцінах, экскурсіі ў храмы, біблейскія чытанні і г.д.

Знешні выгляд бібліятэкі адпавядае рабоце Цэнтра: насценны роспіс у вестыбюлі з тварамі асветнікаў: Кірылы Тураўскага, Еўфрасінні Полацкай, Францішка Скарыны; прывабна аформленыя кніжныя выставы, спецыяльны пакой духоўнай літаратуры. Гэта своеасаблівы пакой: кнігі побач з абразамі. Іконы ствараюць узнёслую атмасферу. Зайшоўшы, адчуваеш лёгкасць, спакой. Нашым чытачам падабаецца працаваць у такіх умовах.

Адно з карысных пачынанняў Цэнтра — адкрыццё нядзельнай школы для дарослых і юнацтва. Ідэя стварэння выклікана жаданнем чытачоў бібліятэкі далучыцца да цудоўнага свету "кнігі кніг — Бібліі". Заняткі праводзіць святар Сабора Св.Пятра і Паўла. Размовы суправаджаюцца паказам відэафільмаў і аглядамі літаратуры духоўнага зместу.

У рабоце Цэнтра ўдала спалучаецца ўзвышанае і зямное, духоўнасць і культура. Разнастайная і цікавая дзейнасць бібліятэкі па далучэнні чытачоў да традыцый і звычаяў беларускага народа, культурнага жыцця г.Гомеля, пошуку таленавітых людзей.

Традыцыйным стала правядзенне святаў, прысвечаных Кірылу Тураўскаму; калядных вечарын, святаў беларускага фальклору, выстаў-сустрэч з самадзейнымі і прафесійнымі майстрамі, мастакамі, разьбярамі па дрэве, рукадзельніцамі.

У рамках тыдня славянскай пісьменнасці і культуры ў бібліятэцы прайшло свята беларускага фальклору "Крыніца натхнення". Афармленне чытальнай залы адпавядала святу: выстава вырабаў народных умельцаў (вышываныя і тканыя ручнікі, абрусы, вырабы з саломкі, лазы і г.д.), этнаграфічны куток (прылады працы і быту беларусаў), выстава-прагляд літаратуры. Супрацоўнікі краязнаўчага музея расказалі і прадэманстравалі беларускае нацыянальнае адзенне. Паказ суправаджаўся абрадавай фальклорнай музыкай і песнямі ў выкананні гомельскага дудара, выкладчыка ГДУ імя Скарыны — С.Вінаградава. Атмасфера была надзвычай святочнай, напоўненая цеплынёй і гармоніяй ад сустрэчы з прыгожым.

У сваёй рабоце бібліятэка заўсёды адчувае падтрымку і дапамогу розных арганізацый, з якімі каардынуе сваю дзейнасць: з Гомельскай Епархіяй, абласным краязнаўчым музеем, аб'яднаннем "Талака", школай мастацтваў, ПТВ, Домам народнай творчасці і іншымі.

**Алена ГАЎРЫЛАВА**

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў БАЛГАРСКАЙ "ПАНАРАМЕ"



***17 чэрвеня ў Доме дружбы адбылося пашыранае пасяджэнне Рады таварыства "Беларусь — Балгарыя", прысвечанае памяці балгарскага паэта Андрэя Германава і прэзентацыі альманаха "Панарама".***




Андрэй Германаў шмат зрабіў, каб беларускую літаратуру добра ведалі ў Балгарыі. Але не перапыняюцца беларуска-балгарскія сувязі і сёння, за што яскрава сведчыць выхад альманаха "Панарама", у якім прадстаўленыя творы амаль пяцідзесяці беларускіх паэтаў і празаікаў. Па сутнасці, перад намі анталогія беларускай літаратуры, упрыгожаная рэпрадукцыямі карцін вядомых беларускіх мастакоў.



Выданне альманаха стала магчымым, дзякуючы намаганням пасла Рэспублікі Беларусь у Балгарыі Аляксандра Герасіменкі, Саюзаў пісьменнікаў Балгарыі і Беларусі, Таварыстваў дружбы абедзвюх краін. Нельга не адзначыць і ўдзел у стварэнні альманаха пасла Балгарыі на Беларусі, паэта Марка Ганчава і дарадцы пасольства Найдэна Вылчава.

**Наш кар.**

*На здымках: Найдэн Вылчаў; падчас пасяджэння Рады.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

БЕЗ ДЭКОРУ

## ЯК САЦРЭАЛІЗМ ПЕРАМОГ БЕЛАРУСЬ

### Артыкул шосты

### Іранічны эпілог

# ЁН ЦІХА СКАНАЎ. ХАЎТУРАЎ НЕ БУДЗЕ

У 80-я гады па-ранейшаму ў "дзяржаўным мастацтве" захоўваліся і строгая іерархія жанраў, дзе тэматычная карціна з вывяй падзей дзяржаўнай значнасці, "вытворчай" альбо "ваенна-патрыятычнай" тэматыкі ацэньвалася высока, а адлюстраванне падзей асабістага жыцця расцэньвалася як "бытавізм" і "дробныя тэмы"; і аднамернасць характараў персанажаў, што з'яўляліся рупарамі ідэй, і адзінства дзеяння, і адзінства месца, і да т.п. Натуральна, такія творы аплачваліся вышэй за пейзажы альбо нацюрморты. Вярхоўная ўлада па-ранейшаму арыентавала мастацтва на ілюстрацыю правільнасці адміністрацыйных ідэй, для чаго ў нетрах Міністэрства культуры распрацоўваліся да буйных юбілейных выставаў спецыяльныя "ідэйна-тэматычныя планы", якім павінны былі падпарадкоўвацца мастакі. Такім чынам, і метад сацрэалізму павінен быў бы называцца не "сацыялістычным", а "адміністрацыйным".

Мінуў час, і гэты метад загадаў доўга жыць. Інакш ён і не мог зрабіць, бо ён жа па сутнасці сваёй — загадны. І хаця сацрэалізм ужо нібыта і не існуе, памяць пра яго працягвае жыць у сэрцах людзей, асабліва тых ветэранаў пэндзля і разца, якім ён даваў магчымасць някепскага матэрыяльнага існавання.

Парадокс? Безумоўна. Быў такі факт. У 60-я гады, калі вырашылі адмовіцца ад будаўніцтва Палаца Саветаў у Маскве і на ягоным месцы ўжо перакатваліся хлараваныя воды басейна, кантралюючыя органы раптам са здзіўленнем убачылі, што архітэктурная майстэрня працягвае сабе спакойненька распрацоўваць праект і план будаўніцтва "найвялікшага будынка эпохі". Ужо дзесяць гадоў як пра Палац нічога не было чутно, а там усё працягваюць распрацоўваць, абмяркоўваць, планаваць...

У тыя, 80-я, гады ўпершыню з'яўляецца на паверхні і новае маладзёжнае "скіцкае" мастацтва — мастацтва андэграўнда, "постмадэрн", "сац-арт", "канцэптуалізм", "перфоменс" і іншыя аналагічныя накірункі. Выставы маладых наватараў на вуліцы Калектарнай, на праспекце Машэрава, у Палацы мастацтва, у Доме кіно, у шэрагу абласных гарадоў не на жарты ўсхвалявалі гледача, які дасюль не бачыў падобных відовішчаў! Гэтыя выставы, па сутнасці, былі ўжо некіруемымі з боку дзяржавы, хаця і рабіліся спробы іх забараніць. Час "перабудовы", які дакрануўся і да духоўнай сферы, набіраў тэмпы. Працэс пайшоў... Раслі, нібыта грыбы пасля дажджу, новыя маладзёжныя творчыя "нефармальныя" аб'яднанні, куды, аднак, уваходзілі і некаторыя члены Саюза мастакоў. Але, у асноўным, гэта былі ўчарашнія "падпольшчыкі", якія адмаўлялі ўсё мастацтва, звязанае з афіцыйнай ідэалогіяй. На пачатку 90-х пасля некаторага зацішку з новай сілай абрынулася першая магутная арт-рынкавая хваля. Пачалася яна ў Маскве — з мастацкіх кірмашоў "Арт-Масква" і "Арт-Манеж". І паступова дакацілася і да Беларусі. Тут фармуецца своеасаблівы "дзікі" арт-рынак, але ў ім яшчэ шмат чаго дзіўнага. Пакупнікоў мала, а тыя, што ёсць, застаюцца ананімнымі. Ды і мастакі-гандляры любяць таямніцы, асабліва тыя, хто да сваіх выстаў выдаюць (з дапамогай спонсараў) шыкоўныя альбомы-каталогі.

Рух "сац-арт", вынайдзены былымі масквічамі, а сёння грамадзянамі ЗША, Віталем Камаром і Аляксандрам Меламідам, мала закрануў Беларусь (найбольш яскравы прадстаўнік у нас — Артур Клінаў). Непаважнае стаўленне да "мёртвага льва" — кодэксу гонару дагматычнага сацыялізму — адпавядала эмацыйнаму настрою моманту.

Гэтая сітуацыя тады так задавальняла замежныя галерэі, якія імкнуліся выкарыстаць цікавасць да "савецкага", што яны пачалі "на корані" купляць і ў нас усё тое, што адпавядала "метаду сацрэалізму" мінулых гадоў. Я памятаю, як прыязджалі да нас "госці" з Масквы, Ленінграда, Швейцарыі, Італіі, Германіі і "чысцілі" майстэрні нашых мастакоў-небаракаў, робячы неблагі бізнес на творах 40 — 50-х гадоў.



*Аляксандр Зіменка. "Беларускі пантэон". Мяшаная тэхніка.*

Сац-арт рэалізаваў сваю несфармуляваную праграму. Адна з прычын ягонага поспеху — неасэнсаваная любоў гледача да пабытавага жанру, хаця гэты жанр і адрадзіўся ў спецыфічнай, парадаксальнай форме. Іранічны кантэкст рабіўся формай новага парадыйнага апавядання.

Многія маладыя беларускія мастакі называюць сваё мастацтва "канцэптуальным". Але разумеюць яны гэта на ўзроўні прымітыўнага сюжэта альбо ілюстрацыі на зададзеную тэму. Хаця на Захадзе пад канцэптуалізмам маецца на ўвазе перамога інтэлектуальнага пачатку, тэорыі над непасрэднай эмоцыяй. Гэта значыць, тэорыя ў гэтай сістэме — не служка мастацтва, а ўласна мастацтва. Цяпер — безліч выстаў. Аднак многія з іх нагадваюць мне, выбачайце, юнацкі ананізм, цынізм сапсаванасці жыццём, павярхоўнае, паюнацку прышчавае красамоўства, замілаванне ўласнай свабодай перарostка-дзіцяці, якое смела сказала маме, што не будзе піць кампот.

Так, гэтыя выставы, так бы мовіць, пратэст. Канцэпцыя пратэсту. Антыэстэтыка. "Ці не жадаеце шампанскага? Прабачце, пакіну вас — прыйшоў мой фундатар..." І з'яўляюцца ўхвальныя артыкулы, рэцэнзіі пра "стваральнікаў міфаў", пра "носьбітаў фенаменальнай і па аб'ёме і па характары памяці, пра энцыклапедычную эрудыцыю" і да т.п. Не падумайце, што я — рэтраград. Я — за любую творчасць, калі яна — прафесійная.

Карацей, побач з сапраўд-нымі творамі мастацтва, што пакутліва нараджаліся ў майстэрнях, з'яўляюцца і нейкія стварэнні, якія можна паспешліва вырабіць з фарбаў, дрэва, жалеза, кардону. Нараджаецца новы паспешлівы стыль, які можна назваць дылетанцкай прафанацыяй мастацтва. Нарадзіўся новы тып мастака — паспешлівы геній. Ад майстроў авангарда ён успрыняў толькі адну традыцыю — традыцыю эпатажу і правакацыі. Але калі Пікаса, Далі, Мандрыян, Дзюшан, Какошка, Міро былі львамі, якія кінулі выклік грамадству, дык сёння некаторыя з самаробных авангардыстаў, для якіх усё заканчваецца эпатажам публікі, больш нагадваюць пудзеляў, падстрыжаных як ільвы.

З іншага боку, новы жывапіс у ягоным былым, высокім разуменні, як і новая літаратура, на маю думку, у пэўнай ступені страціў у наш час свае непасрэдныя функцыі — уздзейнічаць на душу. Яны памяняліся прыладамі: літаратура зрабілася падкрэслена выяўленчай, жывапіс — літаратурна-мантажным, пералічваючым, інтэлектуальным. І ў выніку абодва апынуліся пераарыентаванымі з душы на розум. Чытач і глядач атрымліваюць "далікатную страву", надзвычай цікава прыгатаваную, і нам вельмі хочацца ўзяць удзел у прапанаванай гульні: як зроблена? І перамагчы ў гэтай гульні. На самой справе гэта ў чымсьці і параза, таму што многія нашы таленавітыя мастакі, асабліва сярэдняга пакалення, прапаноўваюць спажыўцу часам геніяльную, віртуозную, даведзеную да ўзроўню шэдэўра форму, якой цяжка... суперажываць.

На жаль, мастацкія працэсы, што адбываюцца ў краіне, пакуль што практычна не асэнсоўваюцца нашымі крытыкамі, не аналізуюцца, не абагульняюцца. У выніку страчаныя крытэрыі мастацкіх ацэнак, так званы "рынак" зусім знівеліраваў якасць твораў, усталяваўшы новы прыярытэт — густ новага спажыўца-пакупніка. Таму выставы, уключаючы і так званыя авангардныя, і "традыцыйныя", і "неарэалістычныя", без іх прафесійнага асэнсавання прымушаюць гледача кідацца ў розныя бакі, не разумеючы, што ж усё-такі "добра", што "кепска" і — чаму.

Безумоўна, у нашыя дні з мастакамі можна рабіць усё, што заўгодна. Можна абяцаць ім залатыя горы, падманваць, прапаноўваючы "ўжо заўтра" выставу хоць у Метрапалітэн альбо ў Цэнтры Пампіду. Можна ўсё, таму што ніхто з нас не ўпэўнены ў заўтрашнім дні, таму што найбольш таленавітыя мастакі не ўмеюць арыентавацца ў сотнях і тысячах галерэй цывілізаванага свету, блытаюць краму з музеем і не ведаюць, як ацэньваць уласнае мастацтва.

Сённяшняя ліхаманка на Беларусі — дзіця перавернутага, ірэальнага свету, свету самазадаволенай несвабоды. І ці хутка яна скончыцца, і ці давядзецца прызвычайвацца да нармальнага мастацкага рынку — невядома нікому. Сёння на Беларусі — у музеях, выставачных залах, прыватных галерэях, мастацкіх салонах і проста ў творчых майстэрнях — прапаноўваюць творы жывапісу, графікі, дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, дробнай пластыкі. Іх можна набыць... Ну і што, і якія ж высновы можна зрабіць? Павінны ж быць нейкія канчатковыя меркаванні, нейкая мараль? Не, высновы не патрэбныя...

У духоўна задушлівым павільёне маёй сённяшняй краіны няма тых, хто перамог, і тых, хто прайграў. C'est la vie, гэта жыццё, такі ўжо ягоны ход: малазразумелы, няясны, мастак даўно страціў вялікае, развучыўся працаваць і ствараць, забыўся нават на сваё рамяство, гатовы гандляваць сваёй нікчэмнасцю, прадаваць сябе заходнім нуварышам дзеля сённяшняга матэрыяльнага дабрабыту, дзеля новенькага, бліскучага "Мерседэса" альбо "Вольва", страціць свой Богам дадзены талент дзеля тых, хто плаціць. Такі ўжо час, — ён не абцяжарвае сябе ілюзіямі, якія замяніў цынізмам, а ідэалы — хціўсцю. І няма каго вінаваціць...

Гэта — вясна, усё падулад-нае ёй. Гэта яе паветра круціць галаву, гэта яна абяцае цудоўнае і незвычайнае і — падманвае, мучаючы нявдзейсненымі марамі. Вясна — хуткацечныя сухоты нашых нізкіх берагоў, свежае імгненне, якое спяшаецца, бяжыць паперадзе, спалучаючы неспалучальнае — ваду з небам, мастацтва з бізнесам, дабрачыннасць на карысць дзяцей-сірот — з меркантыльнасцю, з карысцю: "А што я ад гэтага буду мець?"

На жаль! "Менталітэт" тых, хто мае магчымасць не толькі набыць твор мастацтва, што ніколі "не патаннее", а, значыць, атрымаць "цвёрды" капітал, вельмі далёкі ад менталітэту Марозавых, Мамантавых і розных невядомых ім Шчукіных. Але ўсё ж такі — як хочацца спадзявацца, што надыдзе час, калі забытая Духоўнасць здолее, перасільваючы пакутлівы боль "рыначнага сацыялізму", апярэдзіць на фінішы жыцця тую "філасофію" двуногіх істот, для якіх "баксы" і толькі яны з'яўляюцца галоўнай і канчатковай мэтай існавання.

Мы пакутуем над пытаннем, як захаваць інтэлект нацыі, беларускай нацыі. Бо без інтэлекту — грамадства ператворыцца ў першабытны статак, мэтай якога ёсць здабыванне ежы. І толькі ежы. Няўжо мы вернемся ў пячоры мінуўшчыны?

Цяпер на вуліцы лета. Але я яшчэ дыхаю вясной. Бо ўсё — ад вясны, ад яе невыноснага характару. Няма ў беларускай вясне галубінай цярплівасці і пяшчоты. Гэтыя рысы бачылі калісьці Бялыніцкі-Біруля, маладыя Цвірко альбо Карасёў. Сёння надышлі іншыя часы. Сёння вясна патрабуе ўжывання энергічных выразаў...

... Мой улюбёны занятак — перабіраць старыя фотаздымкі і часопісы з рэпрадукцыямі. Пазнаваць сябе, бачачы, якімі мы былі трыццаць-сорак гадоў таму, здзіўляцца свайму юнацтву і душэўнай чысціні. Толькі б не паглыбіцца ў звыклую ілюзію і не зблытаць гэтыя бесклапотныя ўсмешкі з усмешкамі зусім не бесклапотнага часу...

**Барыс КРЭПАК**

---

<u>*60 гадоў Дзяржаўнай філармоніі*</u>

# ФАРТЭПІЯНА: АКОРДЫ

***Наступны сезон для Дзяржаўнай філармоніі — юбілейны. Як вядома, кожны юбілей — падстава для роздуму. Падсумоўваючы ранейшыя творчыя набыткі і зазіраючы крышку наперад, можна з упэўненасцю сказаць: шмат зроблена, і сёння, як ніколі раней, відавочны росквіт музычнай беларускай культуры ва ўсіх яе накірунках: фартэпіянным, струнным, духавых інструментаў і г.д. Аналізаваць дасягненні беларускай музычнай культуры ў кантэксце сусветных дасягненняў у музыцы — тэма не адной, а цэлага шэрага публікацый. Сёння ўвазе нашых чытачоў прапануецца гутарка з мастацкім кіраўніком Дзяржаўнай філармоніі Юрыем ГІЛЬДЗЮКОМ.***

**— Юрый Мікалаевіч, вы адзін з прадстаўнікоў фартэпіяннага беларускага майстэрства. Агульнавядома, што ў апошні час нашы маладыя піяністы — Андрэй Паначэўны, Юрый Бліноў і іншыя годна прадстаўляюць нашу краіну ў замежжы на міжнародных музычных фестывалях. Аднак для таго, каб беларуская фартэпіянная школа дасягнула такога ўзроўню, як сёння, каб так высока трымаць творчую планку, наша таленавітая моладзь павінна была ўвабраць тое лепшае, што было ў піяністычнай школе Беларусі раней. У наш складаны час вы, відаць, задумваецеся над далейшым лёсам беларускай музычнай культуры. Падзяліцеся, калі ласка, сваімі развагамі.**

— Сапраўды, нельга ўзгадаваць дрэва, не пасадзіўшы саджанец і не даглядаючы яго. На пустым месцы нічога проста так не ўзнікае.



Я маю самае непасрэднае дачыненне да выхавання маладых піяністаў, бо працую не толькі тут, у філармоніі, а яшчэ ў ліцэі пры Акадэміі музыкі, дарэчы, раней яна называлася 11-годка пры Дзяржаўнай кансерваторыі. Тут, у Мінску, раней самаадданa працавала Ірына Аляксандраўна Цвятаева, прафесар, мая настаўніца, якая выхавала не адно пакаленне таленавітых піяністаў. Яны зараз плённа працуюць і ў нашай краіне, і за яе межамі. Нельга таксама ў сувязі з гэтым не прыгадаць Рыгора Ілліча Шаршэўскага. Дык вось, калі школа Ірыны Цвятаевай была маскоўская — яна працягвала традыцыі Канстанціна Ігумнава, то Рыгор Шаршэўскі прыехаў з Санкт-Пецярбурга пасля навучання ў выдатнага педагога Уладзіміра Саханіцкага. Такім чынам, беларуская піяністычная школа яшчэ ў 50-я гады ўвабрала ў сябе лепшыя традыцыі маскоўскай і санкт-пецярбургскай фартэпіянных школ. Прыгадваю таксама прадстаўнікоў прафесуры той старой школы: Міхаіл Бергер, Уладзіслаў Эпштэйн, Эла Этэрман. Менавіта яны доўгі час працавалі на Беларусі і выпеставалі, выхавалі цэлае пакаленне піяністаў, да якога належаць Зоя Качарская, Валерый Шацкі — пераможца некалькіх міжнародных конкурсаў. Гэта таксама і Ігар Алоўнікаў — хто ў нас не ведае гэтае імя! Скончыў Маскоўскую кансерваторыю, дзе вучыўся ў бліскучых прафесараў: Гліэра і Вазнясенскага, яго жонка, Наталля Тачыліна, таксама займаецца выхаваннем маладых піяністаў. Гэта наогул цікавая з'ява — такія "музычныя" сем'і, дзе існуюць узаемаразуменне, дзе муж і жонка звязаны агульнай справай. І, відаць, гаворку вы невыпадкова пачалі менавіта пра фартэпіянную школу на Беларусі, бо да гэтага пакалення належу і я — вучань Ірыны Цвятаевай. Перадумовы для сённяшняга трыумфу нашай фартэпіяннай культуры былі закладзены яшчэ здаўна.

**— Вы разважаеце пра фартэпіянную музычную культуру Беларусі ў звязку з маскоўскай піяністычнай школай. На сённяшні дзень, калі падпісана пагадненне паміж Расіяй і Беларуссю, як вы думаеце, ці адкрыюцца большыя магчымасці для музычнай культуры нашай краіны?**

— Лепшыя беларускія музыканты заўсёды лічылі

# ЧЫСТА АНГЕЛЬСКІ ТЫДЗЕНЬ

***Пятніца, трынаццатага чэрвеня — па прыкметах не надта ўдалы дзень. Але менавіта ў гэты дзень сёлета амбасада Вялікабрытаніі ў Беларусі прапанавала адзначыць нацыянальнае свята — Дзень нараджэння манарха. Самі англічане адсвяткавалі ўжо народзіны сваёй каралевы яшчэ ў красавіку, у адпаведнасці з яе метрыкай. На другі уікэнд чэрвеня прыпадае свята афіцыйнае, больш для замежжа ды краінаў брытанскай супольнасці. Да гэтага дня быў прымеркаваны Тыдзень брытанскай культуры ў Беларусі.***

***Можна сказаць, англічанам спрыяла ўсё — нават надвор'е, тыпова ангельскае, капрызнае, дажджлівае. Нягледзячы на дождж, усё задуманае было здзейснена, пачынаючы з футбола паміж камандамі Беларусі і Шатландыі і заканчваючы крыкетным матчам. А паміж імі былі: вечарына ангельскай паэзіі ў бібліятэцы Брытанскага Савета, кінапаказ у Доме дружбы і там жа "Pub Quiz", тыпова ангельскія клубныя пасядзелкі з каштаваннем элю — своеасаблівага ангельскага піва — і разгадваннем шарадаў. Былі дні ангельскай кухні — у "Іспанскім кутку", адным з самых дарагіх рэстаранаў Мінска, і дабрачынны паказ мадэляў адзення, дзе ў якасці мадэлек выступілі супрацоўніцы брытанскай амбасады, а сродкі пайшлі ў чарнобыльскія фонды. Было і адкрыццё мастацкай выставы і выступленні (спектаклямі гэта назваць было б недакладна) вулічнага тэатра... Аб дзвюх апошніх падзеях хацелася б расказаць больш падрабязна, бо, на маю думку, гэта былі найбольш смачныя "разыначкі" тыдня.***

## ВУЛІЧНЫЯ

"Дарослыя людзі, а паводзяць сябе, як дзеці!" — часцей за ўсё гэтымі словамі выпадковыя прахожыя суправаджалі выступленне вулічнага тэатра Natural Theatre Company ("Кампанія натуральнага тэатра"). Кампанія, дакладней — квартэт сапраўды вельмі сталых што да ўзросту акцёраў — паказала той варыянт тэатра, да якога часам імкнуцца нашы авангардныя трупы і з якога, верагодна, сучасны тэатр і пачынаўся ў шэкспіраўскія і дашэкспіраўскія часы. Гэта — тэатр імправізацыі і непасрэднага ўзаемнага кантакту з гледачамі. Акцёры іграюць часцей за ўсё саміх сябе — такімі, якімі сябе ўяўляюць, з гумарам і іроніяй: брытанскімі лэдзі і джэнтльменамі з пераможнымі ўсмешкамі, ў строгіх чорных строях, белых пальчатках з непазбежнымі парасонамі-тросцямі і ружовымі счэпленымі чамаданамі — маўляў, непарыўнае адзінства, аптымістычны партрэт нацыі — якімі яны прыбылі на адкрыццё мастацкай выставы. Ці наадварот, гумагаловымі ці занудамі-прафесарамі, ці прастакамі-турыстамі з разяўленымі ратамі, растапыранамі вушамі, у макінтошах і з "Кодакамі" на шыях. Калі яны ланцужком праходзяць па вуліцы, толькі яйцагаловыя гумавыя маскі выдаюць тэатральную дзею. Бо ўсё астатняе — паводзіны, хада, маршрут — амаль натуральныя для гібрыда навукоўца і гультая-турыста, якіх у Англіі клічуць "гумавыя шыі" за іх манеру круціць галовамі, азіраючы наваколле. Такое простае на першы погляд крыўлянне на самой справе робіцца цікавым дзякуючы ніяк не прадугледжаным сцэнарыем момантам імправізацыі — бо не п'есы ў звыклым разуменні іграюць вулічныя акцёры. Вось чатыры лысыя істоты сустрэлі таксама лысага дзядзьку — зразумела, пагладзілі яго па лысіне і свае падставілі. Вось спаткалі чырвоную мотакаляску — для іншаземца цалкам экзатычны від транспарту, акружылі яе, паштурхалі, моўчкі паківалі адно аднаму галовамі, пашчоўкалі фотакамерамі. Вось наблізіліся да падземнага перахода, параіліся: там можа быць небяспечна, ў цемры! Але ўсё ж адважыліся — цікавасць перамагла. А ўнізе спаткалі калегу — баяніста, што наігрываў "Мурку" (дакладна "Мурку", без жартаў!), кінулі нешта ў кардонную каробку для грошай, аказалася — пластыкавыя косткі для сабакі (ангельскі гумар!). І гэтак далей — дзівацтвам няма канца, толькі іншамарачнікі шарахаліся ў бакі, калі лысагаловыя падыходзілі да маставой, ды нагружаныя авоськамі ды турботамі "абарыгены" шыпелі незадаволена, сустрэўшыся нечакана твар у твар з гумавымі страшыдламі. Так ці інакш, але твары большасці гледачоў, нават пад дажджом, усё ж святлелі, настрой уздымаўся — ці не гэтага чакаюць ад тэатра?



## ЯКІ "ПОП", ТАКІ І "АРТ"

Поп-арт у свой час дашчэнту быў раскрытыкаваны ў нас, нават і парасткаў не засталося. Таму папулярнае мастацтва, па азначэнні зразумелае кожнаму, для нашых гледачоў —



A for Alphabet

не надта зразумелае, бо дзіўнае.

Поп-арт стаў асноўным полем творчасці для ангельскага мастака Пітэра Блэйка, чыя выстава адкрылася 12 чэрвеня ў Нацыянальным мастацкім музеі. У час навучання ў лонданскім Каралеўскім каледжы мастацтваў у 1953-56 гадах Блэйк яшчэ вагаўся, ці не стаць дызайнерам. Дызайнерскія схільнасці пазней адбіліся на творчасці, часам ягоныя калажы выконваюцца ў выглядзе аконнай рамы ці дзвярэй — тыпова ангельскіх дзвярэй з латуннай ручкай і спецыяльнай пласцінай, каб не пэцкаўся край. Дызайнерскія распрацоўкі Блэйка праявіліся і больш звыкла: напрыклад, гэта ён аформіў музычны альбом сваёй любімай групы "Бітлз" з назвай "Sergent Pepper's Lonely Heart Club Band" ("Клуб самотных сэрцаў сяржанта Пеппера", 1967 год).

Улюбёны жанр Блэйка — партрэт, вядома ж, не класічны, але і не збыт "псіхалагічны", якім захапляліся, напрыклад, кубісты. У поп-арце наогул няшмат таго, што трэба тлумачыць, гэта мастацтва, зразумелае для публічнасці, яно мае шмат агульнага з шоу-бізнесам, у якога заўсёды ёсць глядач.

Рэтраспектыва твораў Блэйка, што прайшла ў 1981 годзе ў Tate Gallery, адной з найбольш прэстыжных галерэяў Лондана, карысталася вялікай папулярнасцю. Па словах крытыкаў, прыжыццёвая слава Блэйка можа быць параўнаная толькі з прыжыццёвай славай Сальвадора Далі.

26 постэраў, што склалі экспазіцыю ў Мінску — гэта



T for The Beatles

ўвасабленні дваццаці шасці літар ангельскага алфавіта паводле Пітэра Блэйка, гэта значыць, з іроніяй, гумарам і рэмінісцэнцыямі. Напрыклад, на літару "К" — "King" ("кароль" па-ангельску) вы ўбачыце партрэт караля рок-н-рола Элвіса Прэслі; на "Q"- "Quarters", "квадраты" — рознакаляровыя квадраты, адгалоскі шырокавядомых выяў Казіміра Малевіча; на "U" — "Unusual People", "незвычайныя людзі" — калаж са старых паштовых картак з выявамі дзіўных людзей, напрыклад, жырафашыйных жанчын аднекуль з Афрыкі ці "рускага багатыра Махнова"; на "Y" — "yacht", "яхта" — яхту з назвай, вядома ж, "Брытанія".

Як кажуць знаўцы, светаадчуванне мастака Блэйка падобна да адчування "дзіцяці ў кінатэатры". У 60—70-х гадах, у часы росквіту поп-арта, Пітэр Блэйк рабіў спробу заснаваць школу свайго мастацтва, згуртаваўшыся з некалькімі іншымі мастакамі, сярод якіх былі Дэвід Хокні, Рон Кітай, у суполку пад назвай "ruralists" (можна перакласці як "вясковыя"). З сярэдзіны 60-х гадоў, амаль дваццаць гадоў запар, ён працаваў выкладчыкам у Каралеўскім Каледжы Мастацтваў, падобная праца многім з сучасных мастакоў дае сродкі да існавання і больш-менш незалежнай творчасці.

Арганізаваная Брытанскім Саветам выстава працягнецца месяц, а потым пройдзе яшчэ ў некалькіх гарадах былога СССР, у тым ліку ў Тбілісі і Ерэване, "Але Мінск — першы", — адзначыў прадстаўнік Савета з Санкт-Пецярбурга Джован Нікалсан, які і суправаджае экспазіцыю. Гэтая выстава — пятая, арганізаваная ў нас Брытанскім Саветам са сваіх фондаў. Перад тым былі: літаграфіі Генры Мура, выстава аб сарака годах брытанскай скульптуры з 1939 па 1979, ілюстрацыі Дэвіда Хокні да казак братоў Грым і прэрафаэліты ў фатаграфіі 50 — 70-х гадоў XIX стагоддзя.



Z for Zebra

## БРЫТАНСКІ САВЕТ

У падрыхтоўцы і правядзенні Тыдня брытанскай культуры нароўні з амбасадай Вялікабрытаніі быў задзейнічаны і Брытанскі Савет (The British Council). Што такое Брытанскі Савет, якія задачы ён вырашае на Беларусі, распавядае ягоны аташэ па культуры Наталля Дземчанка:

— Наогул Брытанскі Савет існуе як дабрачынная арганізацыя з 30-х гадоў. У Мінску мы "адкрыліся" ў верасні дзевяноста трэцяга года. Традыцыйна Брытанскі Савет з'яўляецца аддзелам культуры Амбасады Вялікабрытаніі ці выконвае гэтыя функцыі, застаючыся пры гэтым самастойнай установай. У розных краінах праца будуецца па-рознаму, напрыклад, тут, на Беларусі, наша работа накіравана галоўным чынам на дапамогу выкладчыкам ангельскай мовы. У нас адкрыта бібліятэка, у якой сабраны лепшыя сучасныя матэрыялы па выкладанні, вучэбна-метадычныя дапаможнікі, тэарэтычная літаратура, аудыёвідэаматэрыялы — усё тое, што дазваляе добра і якасна вучыць ангельскай мове. Наша бібліятэка адчынена для любога выкладчыка з Беларусі ці студэнта-практыканта, гэта значыць, студэнта моўнай навучальнай установы, які пачынае выкладчыцкую практыку ў школе — 4—5 курс. Да мінулага года бібліятэка была адзіным месцам у краіне, дзе настаўнікі маглі атрымаць такую літаратуру. Разумеючы, што людзям цяжка ехаць у сталіцу — турботна і дорага — у мінулым годзе мы адчынілі невялікія філіялы ва ўсіх абласных бібліятэках, пакінуўшы там частку сваіх фондаў. Раней мы проста прывозілі туды чамадан з кнігамі, цяпер мы выслабанілі чамаданы, каб вазіць іх у іншыя гарады, каб прыйсці да настаўнікаў на месцы.

Мы рэгулярна праводзім семінары для выкладчыкаў вышэйшых установ і для школьных настаўнікаў, не толькі тут, у нашым офісе, але і ва ўсіх абласных гарадах і таксама ў гарадах, дзе ёсць вышэйшыя навучальныя ўстановы — Полацк, Мазыр, Горкі. У гэтым годзе геаграфія семінараў пашырана на Баранавічы, бо там выкладчыкі досыць сур'ёзна ставяцца да ангельскай мовы. Плануем таксама дадаць Бабруйск.

Мы таксама праводзім навуковыя канферэнцыі, пасля першай з іх арганізавалася беларуская асацыяцыя выкладчыкаў ангельскай мовы. І апошнія канферэнцыі мы ўжо праводзім супольна. Найбольш значным нашым дасягненнем я лічу арганізацыю Школ для выкладчыкаў ангельскай мовы ў Горках Магілёўскай вобласці на базе Сельскагаспадарчай Акадэміі, з дапамогай амерыканскага інфармацыйнага агенцтва. 22 чэрвеня пачынае працу трэцяя Школа. Гэта, па сутнасці, — тры тыдні заняткаў для павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. У якасці выкладчыкаў мы запрашаем найбольш дасведчаных беларускіх педагогаў і спецыялістаў з Вялікабрытаніі і Злучаных Штатаў. Трэба сказаць, што тыя з замежных калегаў, хто адзін раз папрацаваў у нас, хацелі б працаваць і надалей. На сённяшні дзень можна сказаць, што калектыў склаўся сталы. Замежных выкладчыкаў вабіць да нас, па іхніх словах, асаблівая цеплыня беларусаў. Адна з амерыканак сёлета прыязджае ў трэці раз, а на заканчэнне мінулагодняй школы сюды прыехаў яе сын. На



развітальнай сустрэчы ён папрасіў слова і сказаў: "Я цэлы год марыў пабачыць краіну, аб якой мая маці распавядала штодня!"

На маю думку, Школа дае настаўнікам станоўчы зарад у плане моўнай кампетэнцыі, ведаў у галіне методыкі і ў галіне краіназнаўства і культуразнаўства англамоўных краін. У мінулым годзе да мяне прыйшла ўжо немаладая жанчына, што скончыла нашу Школу і сказала: "Вы цалкам змянілі маё жыццё і светапогляд! Пасля Школы ў мяне дабавілася ўпэўненасці ва ўласных сілах, я знайшла лепшую працу і ў мяне палепшыліся адносіны ў сям'і."

Гэта ў асноўным усё, што мы робім для выкладчыкаў ангельскай мовы, але не ўсё, што ўвогуле робіць Брытанскі Савет. У нас ёсць шэраг стыпендый для спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй для ўдасканалення іх ведаў у Вялікабрытаніі і штогод некалькі — а часам некалькі дзесяткаў — асобаў карыстаюцца з гэтай магчымасці. І яшчэ адно — мы трохі дапамагаем у распаўсюджанні дакументаў для стыпендыятаў брытанскай школы музыкі і драмы — "GUILPHALL SCHOOL of MUSIC and DRAMA". Сёлета першы беларускі юнак атрымаў гэтую стыпендыю — 19-гадовы віяланчэліст Мікаэл Самсонаў.

Асобна можна было б казаць аб акцыях, што арганізуе Брытанскі Савет час ад часу, як, напрыклад, гэты сёлетні Брытанскі тыдзень. Такім чынам, як і ва ўсім свеце, у Беларусі Брытанскі Савет садзейнічае ўзнікненню ўзаемаразумення паміж Вялікабрытаніяй і іншымі краінамі.

**Ігар КЛОКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

за гонар прайсці рускую школу. Уздзеянне рускай музычнай школы на нашу беларускую было традыцыйным у лепшым сэнсе гэтага слова і доўжыцца зараз. Аднак цяпер наша таленавітая моладзь выязджае на міжнародныя конкурсы. Раней гэтага не было, раней трэба было праходзіць вельмі складаны адбор: рэспубліканскі, пасля міжзанальны, нарэшце, адбор у Маскоўскай кансерваторыі. Канешне, такіх прадстаўнікоў на міжнародных конкурсах у нас было мала. Практычна іх амаль і не было зусім. Цяпер мы як суверэнная дзяржава маем магчымасць пасылаць сваіх прадстаўнікоў на міжнародныя конкурсы самі. І мы самі змаглі наладзіць міжнародны конкурс, я маю на ўвазе сёлетні — "Фартэпіяна. Мінск-96". Трэба сказаць, што ён вельмі значна прагучаў і паказаў, што ёсць на Беларусі такія музыканты, якія годна могуць прадстаўляць сваю краіну. Дык вось будзем спадзявацца, што краіна Беларусь застанецца суверэннай, як бачыце, ад гэтага мы толькі выйграем, будзем мець рэальную магчымасць прадстаўляць нашу таленавітую моладзь на міжнародныя фестывалі без непатрэбнага пасрэдніцтва. Паміж нашымі дзяржавамі заўсёды быў і ёсць плённы творчы абмен, але мы выхавалі ўжо свае кадры, музыканты нашы працуюць зараз у аркестрах Санкт-Пецярбурга і Масквы.

**— Калі гаворка зайшла пра таленавітыя кадры, пра таленавітую моладзь, то, калі ласка, некалькі слоў пра Андрэя Сікорскага, пра яго творчыя планы.**

— Андрэй — мой вучань. Вучыўся ў маім класе ўсю адзінаццацігодку з 6-і, пасля паехаў у Маскву, вучыўся ў вялікіх прафесараў: у Мяржанава і Дарэнскага, стаў лаўрэатам міжнароднага конкурсу ў Італіі, на леташнім міжнародным конкурсе ў Мінску стаў уладальнікам Гран-пры. Цяпер марыць аб тым, каб удзельнічаць у міжнародных фартэпіянных конкурсах, што адбудуцца неўзабаве ў Італіі і Германіі.

**— Тут ужо прыгадваліся Юрый Бліноў і Андрэй Паначэўны. Якія творчыя вандроўкі чакаюцца ў бліжэйшы час у іх?**

— Андрэй Паначэўны летась пасяхова выступіў у Польшчы на конкурсе Шапэна. І вось зусім нядаўна мы вярнуліся з Дзён культуры Беларусі ў Польшчы, дзе Андрэй таксама выступаў вельмі добра. Дык вось пасля выступленняў Андрэя польская прафесура адзначала, што ён стаў іграць яшчэ лепш.

Юрый Бліноў у свой час паехаў у Пецярбург на першы конкурс імя Пракоф'ева і заваяваў там Гран-пры. Зараз яны запрашаюцца на гастролі па краінах Еўропы. Будзем спадзявацца, што нашы маладыя носьбіты музычнай культуры заўсёды будуць мець запатрабаванасць і ў нашых слухачоў — гэта вельмі важны момант для ўсіх музыкантаў. Наогул, я мару аб тым, каб наша патрабавальная мінская публіка, якая з нецярплівасцю чакае прыезду аркестра Співакова, з такой жа нецярплівасцю чакала выступлення свайго камернага аркестра — узровень яго майстэрства таксама вельмі высокі! Мару і пра тое, што неўзабаве наш сімфанічны аркестр будзе называцца Нацыянальным, таксама як Нацыянальны беларускі тэатр імя Купалы, як Нацыянальная бібліятэка. Наш аркестр можна ўспрымаць на сённяшні дзень як сапраўдны нацыянальны здабытак.

**— У апошнія гады вельмі многія музыканты пакідаюць Беларусь, выязджаюць працаваць у замежжа. Зразумела, гэта звязана найперш з нашымі эканамічнымі цяжкасцямі. Як вы ацэньваеце гэтую сітуацыю?**

— Мы вельмі многа згубілі за апошні час, напрыканцы 80-х, у пачатку 90-х многія музыканты, якія працавалі ў аркестрах і ў кансерваторыі, выехалі жыць і працаваць за мяжу. Не ўсе змаглі перачакаць гэтую эканамічную нестабільнасць і бытавую неўладкаванасць. Музыканту не трэба многа для жыцця, але трэба мець пэўны заробак, каб была магчымасць утрымаць сям'ю, не думаць пра кавалак хлеба, а цалкам аддаць сябе сваёй працы. Сёння ж заробкі і музыкантаў і выкладчыкаў музыкі вельмі нізкія. А перад тымі, хто выязджаў ці збіраецца выехаць у замежжа, адкрываюцца новыя магчымасці напоўніцу рэалізаваць сябе і мець адпаведны заробак за сваю працу. Таленавітага піяніста заўсёды добра ацэняць за мяжой... Мы перастанем страчваць у музычнай культуры тады, калі нашым музыкантам будзе забяспечана вартае іх працы жыццё...

**— Што ж, спадзяюся, што так будзе! Поспехаў вам.**

**Алена РЫГОРАВА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# 102 ГАДЫ З ЖЫЦЦЯ ГАННЫ ЯРАХНОВІЧ

Дырэктар мясцовай школы выказаў не тое каб незадавальненне, але пэўнае здзіўленне тым, што мы прыехалі пісаць не пра гісторыю Лужкоў, якая мае столькі цікавага, і не пра краязнаўчую працу ў школе (якая, заўважу, сапраўды вартая ўсялякага ўхвалення), а пра пенсіянерку, нічым, здаецца, асаблівым у Лужках не адзначаную — не мае ўзнагарод, грамат і да таго падобнага.

Але, на мой погляд, Ганна Вікенцьеўна Ярахновіч мае найвялікшую ўзнагароду, якую ёй дало само жыццё, — доўгажыхарства. Сёлета ёй спаўняецца 102 гады.

Два гады таму я была на яе стагоддзі. Не было нікога з афіцыйных асоб — толькі блізкая радня. А яе не так і шмат — у адзінага сына Вікенція — двое дзяцей, ёсць унукі. Праўда, за святочным сталом сядзелі замежныя госці — родная пляменніца Зора Кіпель і яе муж — дырэктар Нью-Ёркскага інстытута мастацтваў Вітаўт. І ён, уздымаючы кілішак за імянінніцу, сказаў, што менавіта яе брат — беларускі пісьменнік Лявон Савёнак — калісьці па-сапраўднаму абудзіў у ім пачуццё любові да Беларусі, а Зора ўзгадала, што памяць пра "цёцю Нюту", як называе яна Ганну Вікенцьеўну, саграvала яе душу многія дзесяцігоддзі.

... Як і два гады таму, у гаспадыні — надзіва ясныя, светлыя вочы, цудоўная памяць, вострая цікаўнасць да жыцця і яго праяваў. Вось хіба рухі сталі больш запаволеныя, дый пры хадзе час ад часу яна абапіраецца на сцяну. У доме на вуліцы Германаўскай яны цяпер жывуць утраіх — сын з нявесткай, Настассяй Іванаўнай, ды яна. У пакоі Ганны Вікенцьеўны па-ранейшаму вісіць вялікае фота, зробленае ў 1917 годзе ў Пецярбургу, дзе яна разам з маці была ў бежанстве і дзе навучылася шытву, якое ўсё жыццё дапамагала карміць сям'ю. Прыгожая дзяўчына ў цэнтры глядзіць спагадна і светла.

— Гаспадар фабрыкі, на якой мы шылі шынелі для салдат, даведаўся, што ёсць тут дзяўчына з Беларусі, якая шые па дзветры нормы, і прыйшоў пагляд-зець. Я спалохалася, а ён стаіць за спіной і кажа: "Рабі ўсё, як заўсёды". Я і стала зноў шыць, дый забылася на яго — і як пайшла працаваць! Разагнулася тады, калі ён сказаў: "Раз такія залатыя рукі, дык такая ж, мабыць, і галава", і паставіў мяне на прыёмку. Пазней не хацеў адпускаць нас назад, але тады ў Пецярбургу пачынаўся голад, і мы паехалі зноў дадому, у Глыбокае. Адзінае, што вывезла адтуль, — вось гэтую машынку, яна тады была ўжо не новая, і прадалі яе досыць танна", — расказвае Ганна Вікенцьеўна і паказвае на старэнькую швейную машыну, што стаіць ля вакна.



Добра памятае яна і свае дзіцячыя гады, калі, стаўшы вучаніцай рускай школы (а беларускіх не было), спачатку адказвала "па-просту, па-свойму", а настаўніца ласкава тлумачыла, што так гаварыць непрыгожа. Школа, праўда, была добрая, і калі ва ўсіх праверылі галасы, дык старшакласніцы Нюце параілі спяваць у царкоўным хоры (дарэчы, яна спявала ў царкве ў Лужках, куды пераехала з мужам, дзе той пазней стаў царкоўным старастам). Прыдаўся добры голас ёй і на спектаклях, якія ладзіла перад першай сусветнай вайной у Глыбокім беларуская моладзь. Ганна Вікенцьеўна ўспамінае, колькі народу тады прыходзіла на беларускія вечары, асабліва на "Паўлінку". Натхнёна шчыраваў на беларускай ніве яе брат Лявон.

У цяжкія 20-я гады, калі ўсё яшчэ ішла грамадзянская вайна, маладая жанчына пільнавалася аднаго — выгадаваць і паставіць на ногі дзіця, захаваць сям'ю, гэта стала яе задачай і надалей. Яна не займалася палітыкай, але і ў калгас так і не ўступіла, хаця сацыяльны статус аднаасобніка быў у той час проста небяспечны.

— Ганна Вікенцьеўна, задам Вам вельмі банальнае, аднак для нас, маладзейшых, заўсёды важнае пытанне: "Што, на Вашу думку, дало Вам магчымасць захаваць да гэткага ўзросту бадзёрасць і здароўе?"

Яна смяецца. Адказвае сын, Вікенцій Восіпавіч, былы настаўнік (дарэчы, яго жонка Настасся Іванаўна таксама ўсё жыццё да пенсіі працавала настаўніцай малодшых класаў):

— Мама была заўсёды добрай і ласкавай, умела радавацца жыццю. І працавала. О, як яна працавала!

Такім працаўніком вырас і сын. Нават цяпер, у семдзесят тры гады, ён з жонкай утрымлівае дзвюх кароў і цяля, апрабляючы паўтара гектара зямлі.

— На нашы тры пенсіі не пражывеш, тым болей нічым не паможаш дзецям ці ўнукам, — гаворыць Настасся Іванаўна. — А хочацца ж памагчы...

Гэтак жа дапамагала мясцовым кабетам сваім рамяством і Ганна Вікенцьеўна.

— Бывала, мама-нябожчыца адмовіць якой дзяўчыне, што просіць ёй тэрмінова да шлюбу сукенку пашыць, — успамінае яна. — А я кажу: "Мамачка, гэта ж радасць у яе, можа, адзіная ў жыцці — быць прыгожай на вяселлі! І сяджу, бывала, дзве ночы і дзень, каб управіцца. Затое колькі падзяк атрымаю — а яны даражэйшыя за грошы.

Шмат што на зямлі даражэйшым за грошы і багацце лічыць Ганна Вікенцьеўна. Напрыклад, лад і каханне ў сям'і. Нездарма, як успамінае сын, бацька, паміраючы (было яму ўсяго 45 гадоў, але падкасіла армія, фронт), тры разы прамовіў: "Беражы маму!" Гэта былі яго апошнія словы, і яны лепей за ўсё сведчаць, якою была гэтая простая беларуская сям'я...

Так, беларуская. Мы мала гаворым аб своеасаблівасці менавіта нашага, беларускага светаўспрымання, адчування прыгожага і ўсяго таго, што складае нацыянальны характар. Прынамсі, гэтая сям'я заўсёды адчувала сябе не проста нечым накшталт перакаці-поля. Ганна Вікенцьеўна і зараз, гледзячы тэлеперадачы, вельмі цікавіцца пытаннем незалежнасці Беларусі, якую, як яна кажа, згубіць лёгка, а вось аднавіць будзе куды цяжэй.

...Чалавек з другога канца вуліцы, які цікаваў ля агароджы, што за людзі прыехалі да Ярахновічаў, здзівіўся, пачуўшы, што гаспадыні 102 гады.

— Яна яшчэ моцная, дай ёй Бог здароўя. Мабыць, шмат яшчэ пажыве! — адзначыў ён.

І мне вельмі захацелася, каб Бог сапраўды пачуў ягоныя словы. А яшчэ — каб не мы, прыезджыя, паведамлялі пра гэта мясцовым. Бо такія юбілеі — гэта ўсё ж сведчанне таго, што ён, Бог, не зусім забыўся на нашую старонку...

**Вольга ІПАТАВА**
*Шаркоўшчынскі р-н*

*На здымку: Ганна Ярахновіч у свае 102 гады з сынам Вікенціем (стаіць у цэнтры).*




Што мы ведаем пра беларускую шляхту? Ды амаль нічога. Часцей за ўсё мы яе ганьбім — як нешта несумяшчальнае з самім духам беларускасці. А між іншым, у мінулыя вякі ва ўсіх краінах былі прывілеяваныя саслоўі, і Беларусь таму — не выключэнне. Беларуская шляхта ўзнікла шмат раней як расійскае дваранства, яе карані сягаюць Вялікага княства Літоўскага — старажытнабеларускай дзяржавы, дзе нават пэўны час беларуская мова была дзяржаўнай.

Але ў свядомасці народа ўкаранілася стэрэатыпнае ўяўленне, што шляхта — гэта палякі і католікі, інакш кажучы — не беларусы. Для такога спрошчанага меркавання ўсё ж былі падставы, бо да пачатку XIX ст. значная частка беларускай шляхты перайшла ў каталіцтва, што было выклікана палітычнымі абставінамі таго перыяду. Але, як сцвярджаюць вучоныя, спачатку шляхта на Беларусі і Украіне была праваслаўнага веравызнання. Напачатку гэта — проста прывілеяванае саслоўе. На нашай зямлі была яшчэ адна катэгорыя шляхты — сярэдняя. А таксама дробная — заградовая, засцянковая. Існавала нават шляхта-галота, якая не мела сваёй зямлі і жыла пры магнацкіх дварах у якасці прыслугі. Пасля далучэння Беларусі да Расіі значнай частцы шляхты нададзены правы дваранства Расійскай імперыі. Але многія прадстаўнікі старой беларускай шляхты такіх правоў не атрымалі. Гэта тлумачыцца тым, што ў нашым краі шляхта складала 5—10 працэнтаў ад агульнага насельніцтва, а дваране ў Расіі — 1 працэнт. Зразумела, што такі дысбаланс быў не на карысць расійскага дваранства. Дык што сталася з беларускай шляхтай? Тая яе частка, якая перайшла ў расійскае дваранства, падзяліла яго лёс. Акаталічаная шляхта ў многім падзяліла лёс польскай. Апошнія прывілеі ў Польшчы, у тым ліку ў Заходняй Беларусі і Заход-

*(Заканчэнне.
Пачатак у №№ 16, 20)*

# БЕЛЫЯ АДЗЕННІ БЕЛАРУСАЎ

Беларускай гуманістычнай думцы прыходзілася змагацца з самай адвечнай і несусветнай несправядлівасцю, якая толькі магла нарадзіцца сярод косных розумаў — даказваць права простых грамадзян сваёй нацыі, абяздоленых беларускіх мужыкоў называцца такімі ж людзьмі, як больш высакародныя іхнія суайчыннікі. Прыходзілася выратоўваць роднага брата, пагарджанага земляка ад бездані занядбання і ліха знявагі. Гэты матыў узняцця сацыяльнага і духоўнага аўтарытэту простага жыхара беларускай вёскі да належных яму вышынь быў адным з найбольш моцных ва ўсёй нацыянальнай дэмакратычнай літаратуры, пакінуўшы самыя значныя мастацкія здабыткі ў творчасці Ф.Багушэвіча, Я.Купалы, Я.Коласа, Цёткі.

Вялікім гуманістычным зарадам напоўнены творы беларускай літаратуры і мастацтва на тэму дзяцінства. Да яе невыпадкова звярталіся працаўнікі нацыянальнай культуры — пісьменнікі, мастакі, кінематаграфісты. У ёй яны бачылі невычэрпны матэрыял чыстай цнатлівай духоўнасці, некранутай брудам чалавечых заганаў. Дзецям яны прысвячалі той патаемны куток сваёй душы, у якім самі былі дзецьмі — чыстымі, светлымі, шчаслівымі, вольнымі ад недарэчных умоўнасцей дарослага свету. Падобна таму як Купала звязваў свае надзеі на лепшую будучыню Беларусі з яе маладосцю, і тыя, хто звярнуўся да твару дзяцінства, шукалі ў ім крыніцы лепшых рухаў чалавечага сэрца, каб не даць людзям забыцца пра іх кроплі. Вялікую сэнсавую нагрузку маюць незабыўныя дзіцячыя вобразы ў творах мастакоў І.Аляшкевіча і І.Хруцкага, пісьменнікаў М.Лынькова і Я.Маўра, коласаўскіх паэмах "Новая зямля" і "Сымон-музыка", у кінастужках майстроў беларускага кіно "Дзеці партызана", "Дзяўчынка шукае бацьку", "Іван Макаравіч" і інш.

Лішне казаць і пра тое, што адносіны да войнаў з боку беларускай свядомасці былі адназначныя. Асноўная маса беларусаў бачыла ў іх жахлівыя з'явы рэчаіснасці, жудасныя параджэнні вывернутых наіспод звілін чалавечага мозга. Супраць крывавых братазабойчых войн заўсёды выступалі лепшыя розумы беларускага грамадства. Гнеўна ўздымаў голас пратэсту супраць феадальных міжусобіц славуты прадстаўнік беларускага Рэнесанса Мікола Гусоўскі ў сваёй знакамітай паэме "Песня пра зубра". Быццам з сэрца ў яго вырвалася: "Войны — злачынная справа — вайна выклікае гнеў мой і слёзы, і боль". Рашуча асуджаў войны як галоўнае богапраціўнае зло ў свеце вялікі беларускі ерэтык Сымон Будны. Незабыўнае ўражанне сваёй антываеннай гуманістычнай сутнасцю робіць твор М.Гарэцкага "На імперыялістычнай вайне". Што адчувае чалавек, выходзячы цудам уцалелы з-пад шалёнага агню, сляпы ад успышак полымя і глухі ад узарваўшых зямлю выбухаў? Усяго ў чатыры словы ўкладаюцца ўсе перажыванні ў гэты час героя аповесці Лявона Задумы (а гэта той жа Гарэцкі, які бачыў вайну ўласнымі вачыма): "Ранейшага мяне навекі няма".

Сапраўдная любоў у жыцці непадзельная з не менш шчырай нянавісцю да яе антыподаў. Любіць Бога і Чалавека для беларусаў заўсёды азначала бязмежна ненавідзець д'ябла. Апошняя вайна зліла гэтыя высакародныя пачуцці ў адзін непарушны маналіт, калі адно было бяссільнае і бездапаможнае без другога. Зараз нянавісць выратоўвала ад жаху роспачы і цемры безнадзейнасці, трымала на паверхні жыцця сваёй няскоранай рашучасцю змагацца да канца. І невыпадковымі былі словы К.Чорнага, якія данеслі да нас успаміны З.Азгура: "Калі б не нянавісць, мы б бадай не вытрымалі і засталіся псіхічна непаўнацэннымі людзьмі. Нас выратавала нянавісць..."

Вайна, яе жахі паказалі свету зусім іншых беларусаў, чым іх прывыкла бачыць грамадская думка мірнага часу. Іхняя спрадвечная дабрыня, гуманнасць і чалавечнасць абярнуліся процілеглым бокам ды крывавых злачынцаў, што прыйшлі на беларускую зямлю. І зноў, які раз у гісторыі, памыліліся нядобрыя іншаземцы, што разлічвалі на ўсё тую ж мяккасць і доўгацярплівасць быццам не здольных да супраціўлення людзей, заціснутых паміж рускімі і палякамі. Але ж тыя цяпер стаялі на апошняй мяжы паміж жыццём і смерцю. Таму страшэнным быў выбух іхняй грамадскай свядомасці і надзвычай рэзка прагучала метамарфоза жыццёвага статута нашых суайчыннікаў — ад мірнай спакойнай стваральнай працы да раз'юшанага самаадданага змагання. Бо самыя гучныя гукі, што скаланаюць і неба, звычайна нараджаюцца пасля доўгага маўчання і лагоднай цішыні.

У брудным і жудасным абліччы як самую страшэнную з'яву, якая толькі можа напаткаць чалавечы лёс, паказвае гэтую вайну Васіль Быкаў. "Вайна, — гаварыў пісьменнік, — супярэчыць чалавечай прыродзе, нішто не можа апраўдаць яе існаванне... Вайна амаральная і таму, што яна здольная паламаць чалавека духоўна. Пакуль не пераваяліся на зямлі зброя і ў сіле тыя, хто жадае пусціць яе ў ход, не маю права маўчаць пра тое, што перажыў і бачыў". Трагедыйнасць, антычалавечая сутнасць вайны выкрываецца кожным радком апавяданняў пісьменніка, ён супастаўляе для гэтага антаганістычныя паняцці — каханне і кроў, жанчына і боль, юнацтва і смерць. Такой страшнай, сапраўднай вайны да Быкава ў пасляваенны час не ведала беларуская літаратура.

Сталінскай карнай сістэме ўдалося істотным чынам запэцкаць белыя адзенні беларусаў. Злачынствы на Беларусі ў канцы 20-х — пачатку 50-х гадоў рабілі не толькі прышлыя заваёўнікі, яны былі справаю рук і мясцовых даносчыкаў, пагромшчыкаў, касталомаў. Жорсткая бязглуздая кампанія супраць "нацдэмаў" праводзілася сіламі беларускіх жа ідэалагічных чыноўнікаў ці нават вядомых творчых дзеячаў. Смерці "ворагам народа", як шалёным сабакам, патрабавалі не толькі партыйныя кіраўнікі, але і грамадзяне ў кожным беларускім працоўным калектыве. У Курапатах і іншых жахлівых месцах нашай зямлі гучалі стрэлы беларускіх жа хлопцаў, апранутых у мундзіры служачых НКУС. А потым апраўдвалі ўсё гэта і дагэтуль спрабуюць рабіць тое самае зноў жа беларускія сталіністы па перакананнях і ўсяму жыццёваму шляху.

Бальшавізм спіхнуў чалавека з таго п'едэстала, на які яго паставілі мысліцелі-гуманісты мінулага.

# ШЛЯХТА СА ЗДАРОВАЙ ПРЭТЭНЗІЯЙ НА АРЫСТАКРАТЫЧНАСЦЬ У ЦЭНТРАЛЬНА-ЕЎРАПЕЙСКІМ ВЫМЯРЭННІ



няй Украіне, зліквідаваны ў 1921 годзе.

Не прайшло і стагоддзя з часу ліквідацыі ўсіх саслоўных прывілей, але мы ўжо амаль нічога не памятаем аб сваёй арыстакратыі. Беларускую шляхту мы найчасцей уяўляем у вобразе персанажа з купалаўскай "Паўлінкі" — ганарыстага прадстаўніка засцянковай шляхты. Наша гістарычная недасведчанасць засланяе ад нас імёны старажытных шляхецкіх родаў, якія на працягу стагоддзяў стваралі інтэлект нацыі. Многія з іх таксама папоўнілі "інтэлектуальны запас" суседніх дзяржаў.

Але, насуперак усім рэвалюцыям і сацыяльным катаклізмам, на Беларусі ўсё ж захаваліся нашчадкі сапраўдных шляхецкіх родаў, якія на аснове гістарычных дакументаў даказалі сваё паходжанне. У 1988 годзе было створана Згуртаванне беларускай шляхты (ЗБШ), у якім цяпер больш як 300 чалавек. Дарэчы, аналагічныя суполкі існуюць у многіх іншых краінах. Зразумела, згуртаванне, як і іншыя арганізацыі падобнага тыпу, не ставіць перад сабой ніякіх палітычных мэт: гэта найперш задачы грамадскія, навукова-асветніцкія, згуртаванне імкнецца да вывучэння і адраджэння нацыянальнай духоўнай і матэрыяльнай культуры. ЗБШ лічыць сябе пераемнікам спраў і традыцый шляхецкіх соймаў і соймікаў Вялікага княства Літоўскага. У сваёй дзейнасці яно абапіраецца на гістарычныя дакументы і найноўшыя навуковыя даследаванні. Калі гаварыць пра структурную пабудову згуртавання, то тут таксама назіраецца гістарычная пераемнасць, у тым ліку і ў лексічных абазначэннях. Сябрамі ЗБШ у асноўным з'яўляюцца навукоўцы, пісьменнікі, дзеячы культуры і г.д., а ўзначальвае яго вядомы ў рэспубліцы гісторык, доктар навук Анатоль Грыцкевіч. Паводле традыцыі, назва гэтай пасады гучыць так: Вялікі маршалак. Кіраўнічы орган ЗБШ — найвышэйшая Рада, у якую ўваходзяць Вялікі Маршалак, Канцлер, Суддзя Выводны, Галоўны скарбнік.

Сяброўства ў ЗБШ бывае двух відаў: сябра-прэтэндэнт і дзейны сябра. Сябрам-прэтэндэнтам можа быць асоба, якае мае прозвішча нашчадка шляхціча з Вялікага княства Літоўскага, пацверджанага ў дваранстве геральдычнымі органамі Расійскай імперыі, або мае прозвішча нашчадка прадстаўніка шляхетнага стану іншых краін. Выводная камісія мяркуе, ці маюцца ў гэтай асобы падставы для залічэння ў ЗБШ. Дзейным сябрам можа быць асоба, якая прадставіла дакументальныя доказы свайго шляхецкага паходжання або сведчанні шасці сведкаў-шляхцічаў, дзейных сяброў згуртавання.

І ўсё ж ЗБШ нельга назваць арганізацыяй тыпу "сама ў сабе". Выяўленне асоб шляхецкага роду не самамэта. Галоўнае ў дзейнасці згуртавання — выхаванне ў суграмадзян пачуцця патрыятызму на аснове гістарычных ведаў. ЗБШ — актыўны прапагандыст беларускай мовы і багатай культурнай спадчыны нашых продкаў. Сапраўды, шляхетнасць — не чужародная для нас з'ява, гэта таксама адзнака беларускасці. Пры ЗБШ існуе шляхецкі універсітэт культуры, там можна пазнаёміцца з матэрыяламі па генеалогіі і геральдыцы, даведацца, як праводзяцца доследы і экспертыза ў гэтых галінах, і ўпэўніцца, што Беларусь заўсёды ўсведамляла сябе цэнтральнай краінай Еўропы, і з гэтым лічыліся іншыя дзяржавы.

**Зоя ЛЫСЕНКА**

---

Галоўнымі духоўнымі каштоўнасцямі ён абвясціў ідэалагічныя катэгорыі — рэвалюцыю, партыю, уладу Саветаў, сацыялізм, нізвёўшы грамадзяніна да ролі самаадданага змагара за іх і ўславіўшы смерць за тыя абстрактныя хімеры як найвялікшы подзвіг. Яго намаганнямі насельніцтву была прывіта псіхалогія ахвярніцтва, заўсёднай гатоўнасці да смяротнай гадзіны ("и как один умрём в борьбе за это"). Адсюль было зусім недалёка да апраўдання масавых злачынстваў ("лес рубят — щепки летят") і прымірэння са штодзённым пахам крыві і смерці. Бальшавізм вынішчыў агульначалавечыя катэгорыі, крытэрыі дабра і зла. Пад яго пралетарскай сякерай пападалі, зганьбаваныя і ашальмаваныя, вера ў бога, міласэрнасць, любоў да проста чалавека. Вынікі гэтага "перавыхавання" мы не можам пераадолець і зараз.

* * *

Беларускую гуманістычную думку хацелася б найперш вызначыць словам "дакор". Заўсёды яна дакарала і абвінавачвала людзей, учынкі якіх супярэчылі хрысціянскай маралі, выступала супраць крыважэрных эксплуататараў, арганізатараў масавых забойстваў — войнаў, палітычных і духоўных прыгнятальнікаў беларускага народа. Часцей гэта быў менавіта дакор, заклік да розуму спыніцца ў сваіх злачынных намерах, зразумець, што ўсе людзі навакол павінны быць роўнымі ў сваіх самых неад'емных правах, што тычацца жыцця і свабоды чалавека. Знешне гэтая думка выглядала, як правіла, нежыццёва і бездапаможна, бо заўсёды апярэджвала свой час і мела вельмі сур'ёзнага праціўніка ў форме сацыяльных адносін эпохі і той людской коснасці, што ім спадарожнічала.

На Беларусі ж гэтае ўражанне ўзмацнялася асабліва драматычным гістарычным шляхам нашага народа і адсутнасцю агульнапрызнанага носьбіта гуманізму ў асобе нацыянальнай інтэлігенцыі. У адрозненне ад іншых краін гуманізм стаў тут даволі позна моцным грамадскім рухам і доўгі час заставаўся пераважна стыхійным народным мысленнем са своеасаблівым гаротным адценнем. Як адзначыў адзін з сучасных аўтараў, рускае пытанне "Хто вінаваты?" — у перакладзе на беларускую мову гучыць:"Што я такога вам зрабіў?" Успомнім — "нікога не біла яна, не падбівала, толькі баранілася". Але баранілася іншы раз так, што рабілася млосна яе ворагам.

Беларускі гуманізм — гэта яшчэ і невычарпальны сум. Сказаць болей — вялікая туга па занядбанай Бацькаўшчыне, нешчаслівым лёсе яе народа. Мала каму на зямлі прыйшлося перажыць тое, што перанеслі беларусы. Безліч імгненняў было ў іх долі, калі прыходзілася моўчкі бяссільна здзіўляцца — за што так настойліва і няспынна карае іх бог? Гэта было быццам звышвыпрабаванне — да якой жа ступені яны такія добрыя і цярплівыя? Але былі дарэмныя намаганні парваць ці скінуць іхнія белыя адзенні — можа было зрабіць гэта хіба разам са скурай. А асобныя плямы на іх засталіся толькі плямамі, не больш.

Чаму яна была такая невынішчальная — добрая ўсмешка на сухіх сцятых вуснах? Таму што заўсёды разам з ёй заставалася надзея — адна з іпастасей дабрыні беларусаў. Як бы жорстка ні лупцаваў іх лёс, іхнія вочы валодалі нязбыўнай здольнасцю бачыць сонца за хмарамі і глядзець наперад у вечным чаканні яго праменняў. Гэта выратоўвала і давала сілы для заўтрашняга дня, працягвала магутны жыццёвы радавод. Светлая надзея, афарбаваная верай у добрых людзей і ў канчатковае харастьва свету, не пакідала беларусаў і ў самыя змрочныя часы.

Яна не павінна пакінуць нас і зараз, у вельмі нялёгкі перыяд нашага жыцця. Многія сённяшнія яго прыкметы ствараюць уражанне крызісу гуманістычных ідэалаў, на Беларусі — гэтаксама, як і ў іншых месцах былога СССР. Але не будзем спяшацца рабіць высновы. Цяжка паверыць, што можна так хутка вынішчыць з сэрцаў тое, што назапашвалася ў генафондзе нацыі стагоддзямі. Здаецца, нават наш круты зігзаг бяссільны зрабіць гэта. Мы абавязкова ачуняем і ўспомнім як недарэчны сон тое незразумелае, што калісьці адбывалася з намі.

**Сяргей КВІЦЕНЬ**

---

# КАЛЯНДАР ТРАДЫЦЫЙНЫХ ФЕСТЫВАЛЯЎ І СВЯТАЎ УСТАНОЎ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

## *ЛІПЕНЬ*

**Міжнародны фестываль "Скрыпка Шагала" (у рамках II Міжнароднага пленэру імя М.Шагала)**
*г.Віцебск*
Прымаюць удзел прафесійныя і самадзейныя калектывы і выканаўцы
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама: (8-021-2) 37-62-15
Аддзел культуры Віцебскага гарвыканкама: (8-021-2) 37-03-63

**V Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар"**
*г.Віцебск*
Прымаюць удзел маладыя выканаўцы і калектывы эстраднай песні, мастакі-мадэльеры
Дырэкцыя фестывалю: (8-021-2) 36-09-44
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама: (8-021-2) 37-62-15
Аддзел культуры Віцебскага гарвыканкама: (8-021-2) 37-03-63

**Міжнародная традыцыйная сустрэча "Дружба славян-97"**
*Манумент дружбы на мяжы Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай абласцей*
Прымаюць удзел прафесійныя і самадзейныя калектывы Беларусі, Расіі, Украіны
Упраўленне культуры Гомельскага аблвыканкама: (8-023-2) 53-41-52

**Міжнародны фестываль фальклору "Жыцень"**
*Мінскі раён*
Аддзел культуры Мінскага райвыканкама: (8-017) 254-69-96

**II Усебеларускі фестываль народнага гумару**
*Калінкавіцкі раён, Гомельская вобласць*
Прымаюць удзел мастацкія калектывы і выканаўцы ўстаноў культуры
Міністэрства культуры: (8-017) 223-90-45
Аддзел культуры Калінкавіцкага райвыканкама: (8-023-45) 2-12-80

**Рэспубліканскі фестываль сямейнай творчасці "Сузор'е талентаў"**
*г.п.Глуск, Магілёўская вобласць*
Магілёўскі абласны навукова-метадычны цэнтр: (8-022-2) 25-85-29

**Рэспубліканскае свята "Пеўчае поле"**
*4—6 ліпеня, г.Мядзель, Мінская вобласць*
Прымаюць удзел вакальна-харавыя калектывы
Міністэрства культуры: (8-017) 223-73-63
Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці: (8-017) 236-82-71
Аддзел культуры Мядзельскага райвыканкама: (8-297) 5-55-45

**Абласное свята фальклору, рамёстваў і беларускай гульні (у рамках фестывалю мастацтваў "Славянскі базар")**
*г.Віцебск*
Прымаюць удзел майстры традыцыйных відаў рамёстваў і фальклорныя калектывы
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама: (8-021-2) 37-62-15
Віцебскі абласны цэнтр народнай творчасці: (8-021-2) 36-43-64
Аддзел культуры Віцебскага гарвыканкама: (8-021-2) 37-03-63

**Абласное свята ткацтва**
*г.Лепель, Віцебская вобласць*
Прымаюць удзел майстры па ткацтве, навукоўцы
Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама: (8-021-2) 37-62-15
Аддзел культуры Лепельскага райвыканкама: (8-021-32) 2-15-92

**Абласны агляд выканаўцаў беларускай эстраднай песні**
*г.Слуцк, Мінская вобласць*
Мінскі абласны цэнтр народнай творчасці: (8-017) 239-67-02
Аддзел культуры Слуцкага гарвыканкама: (8-295) 5-22-36

**Гарадское свята "Дзяржынскія зарніцы"**
*г.Дзяржынск, Мінская вобласць*
Прымаюць удзел мастацкія калектывы
Аддзел культуры Дзяржынскага гарвыканкама: (8-216) 5-66-37

**Свята горада "930 гадоў г.Мінску"**
*3 ліпеня, Мінск*
Упраўленне культуры Мінскага гарвыканкама: (8-017) 221-45-18

**Гарадское свята "Купалле"**
*6—7 ліпеня, Мінск*
Упраўленне культуры Мінскага гарвыканкама:
(8-017) 221-74-97, 233-37-18

**Раённы фестываль майстроў народнай творчасці**
*г.п.Карма, Гомельская вобласць*
Аддзел культуры Кармянскага райвыканкама: (8-023-37) 2-12-80

**Раённае свята "Святое Пятро ў полі ходзіць"**
*12 ліпеня, в.Красная Слабада, Быхаўскі раён, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел фальклорныя калектывы
Быхаўскі раённы Дом народнай творчасці: (8-022-31) 2-21-65

**Раённае свята Святога Духа**
*г.п.Чэрыкаў, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел мастацкія калектывы
Аддзел культуры Чэрыкаўскага райвыканкама: (8-022-43) 2-11-75

**Раённае свята "Брызгун"**
*13 ліпеня, в.Вудага, Чэрыкаўскі раён, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел мастацкія калектывы
Аддзел культуры Чэрыкаўскага райвыканкама: (8-022-43) 2-11-75

**Раённае свята "Іграй, гармонік"**
*г.Горкі, Магілёўская вобласць*
Прымаюць удзел фальклорныя калектывы і асобныя выканаўцы
Аддзел культуры Горацкага райвыканкама: (8-022-33) 2-24-81

---



Выставу Веткаўскага музея народнай творчасці ў зале Гомельскага дзяржаўнага універсітэта склалі 64 ручнікі неглюбскага каляровага ткацтва, а таксама жаночыя строі з вёсак Казацкія Баўсуны і Стаўбун.
*На здымку: метадыст універсітэцкага культурнага цэнтра Яўгенія Антонава з жаночымі строямі Веткаўшчыны.*
**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

ЛІШНЕ КАЗАЦЬ

# СВЕЧКА ЗА ЗДАРОЎЕ ХУДОБЫ

У мінулым беларусы ў першы аўторак пасля Тройцы запальвалі свечку, ішлі з ёю ў хлеў ці на стайню і ставілі яе там, як лічылася, за здароўе худобы. У гэты дзень, які ў народзе называўся Конскім Вялікаднём, прыбіралі стайню, а коней не выводзілі на работу, каб яны адпачылі ў свае свята. Спецыяльны абрад у хляве за здароўе і пладавітасць жывёлы выконвалі і на свята Макавея, што адзначалася першага жніўня па старым, чатырнаццатага па новым стылі. У гэты дзень свяцілі ў царкве мак і потым абсыпалі ім хлеў.



Тое, што ў хляве праводзілі розныя абрадавыя дзеянні, не выпадкова: тут знаходзілася асноўнае багацце селяніна — свойская жывёла, таму хлеў і патрабаваў у рытуальным плане асаблівай увагі. Жывёлу ж, якая мясцілася ў хляве, падсцерагала шмат небяспечнасцей: у абору мог забрацца драпежнік, напрыклад, воўк, худобу мог сурочыць благі чалавек, да яе магла прычапіцца "нячыстая сіла". На ўсе гэтыя выпадкі існавалі розныя сродкі засцярогі. Так, на Тройцу звычайна ў хлявах вешалі крапіву і вянкі з асвечаных траў, што павінна было засцерагчы жывёлу ад чар вядзьмарак і ведзьмакоў. На Вербніцу ж у хляве ад злых духаў утыкалі галінкі вярбы. На парозе хлява тады клалі розныя сімвалічныя рэчы. Так, пакладзенае курынае яйка павінна было "заткнуць ваўку пашчу" і да таго ж паспрыяць, каб каровы былі "круглыя і поўныя". Клалі на парозе і замкнуты замок, прыгаворваючы: "Няхай так замкнецца пашча ваўка на ўсё лета". Ніты ад кроснаў, пакладзеныя каля хлява, павінны былі абараніць худобу ад укусаў змей. Пры гэтым гаварылі: "Як гадзюка ніта не разбярэ, так ад кароўкі малака не адбярэ". Пояс ці жменю выцягнутай са страхі саломы клалі, каб скаціна не адыходзіла ад дому. Бязмен жа на парозе хлява павінен быў паспрыяць павелічэнню вагі жывёлы. Каб не дапусціць нячыстую сілу ў хлеў, над яго парогам вешалі разнастайныя вострыя прадметы: сярпы, іголкі і інш., — каб нячысцік ці ведзьма маглі неяк параніцца. Лічылі таксама, што нячыстая сіла баіцца "грамнічных" свечак, гэта значыць асвечаных у царкве ў свята Грамніцы, ці Стрэчання. Іх вешалі каля ўвахода ў хлеў, каб ведзьмы не адабралі ў кароў малако ці не заездзілі да смерці коней. Таксама пэўныя абрадавыя дзеянні рабілі і пры пабудове хлява. Так, пры закладцы аборы ці стайні гаспадар тры разы стукаў сякерай па парозе. І пасля пэўных заклінанняў вымаўляў: "Хто пераступіць гэтае месца, той скінецца ваўком на ўсё жыццё!"

У мінулым, калі беларус уваходзіў у хлеў, ён стараўся не глядзець у дальні кут ці на бэльку пад страхой, калі ж трэба было крануць бэльку рукою, ён спачатку ўголас называў гэты прадмет. Гэткія засцярогі рабіліся таму, што ў хляве, як думалі, жыве спецыяльны нячысцік, які так і завецца Хлеўнік; ён звычайна сядзіць у куце ці на той самай бэльцы і дрэмле, калі ж яго нечакана патрывожыць, ён з перапуду можа нарабіць у хляве ўсялякай бяды.



Наогул Хлеўнік, па народных уяўленнях, быў фігурай неадназначнай. Ён мог у хляве як шкодзіць, так і дапамагаць людзям, у залежнасці ад стаўлення яго да гаспадароў. Калі ён ставіўся да іх добра, то хадзіў за жывёлай, даваў ёй корм, калі ж дрэнна, то ўсяляк мучыў худобу, заязджаў яе амаль да смерці. Таксама ў яго маглі быць сярод жывёлін "любімчыкі", якіх ён песціў, і нялюбыя, якім ён шкодзіў. Калі Хлеўнік трапляўся занадта шкадлівы, былі розныя сродкі, як яго вывесці. Напрыклад, этнограф А.Багдановіч у сваёй кнізе "Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў" прыводзіць такі спосаб: "Самы лепшы спосаб выгнаць хлеўніка наступны. Трэба звіць з "пасконі" (канаплі) пугу ў тры "стволкі", на канцы завязаць тры вузельчыкі, ад іх на адлегласці адной пядзі яшчэ тры, а праз пядзю яшчэ тры. У тую ноч, калі настае маладзік, бітую пугу навязаць на асінавае пугаўё, перад варотамі паставіць жароўню з асінавымі палаючымі вуглямі; зрэшты, вуглі могуць быць і іншыя, але асінавыя нібыта лепш. Калі ўсё гэта гатова, трэба ўзяць карову ці кабылу за хвост і гнаць яе цераз хлеў да дзвярэй, сцябаючы наводмаш пугай і стараючыся пераганяць цераз жароўню. І гэтак перабраць усіх кароў і коней. Пры гэтым трэба прыгаворваць: "Пайшла, хіра (немач, хвароба, пагань), на ўзвей вецер!.." Калі на якой-небудзь жывёле і сядзеў Хлеўнік, то ад уздзеяння пугі з "пасконных" валокнаў, якая рассякае яго цела да крыві, агня, якога ён баіцца, і, нарэшце, замовы, якой надаецца чароўная сіла, ён не адважыцца вярнуцца назад і пакіне статак у спакоі".

Па некаторых звестках, у хляве часам жыве і Дамавік. Ён, як і Хлеўнік, можа ці песціць жывёлу, ці заездзваць яе. Каб задобрыць Дамавіка, у першы дзень Каляд апоўдні пеклі хлеб, а потым ад першай булкі адрэзалі акраец, салілі яго і ўночы ішлі з ім у хлеў, дзе клалі пад страхою, прыгаворваючы: "Дамавік-дамавы! Прымі ад мяне хлеб-соль, любі маіх коней і жалуй! І буду я цябе любіць і жалаваць!" Іншыя ж гаспадары спрабавалі запужаць дамавіка, для чаго забівалі сароку ці варону і вешалі ў хляве. Гэта павінна было, па іх уяўленнях, абясшкодзіць нячысціка.



Спасылаючыся на магчымы гнеў дамавіка, гаварылі, што ў хляве трэба паводзіць сябе асцярожна: гучна не размаўляць, не лаяцца, засцерагацца кляцьбы. Асабліва трэба было быць пільным апоўдні, таму што ў гэты час дамавік спіць, і калі яго разбудзіць, ён можа дужа раззлавацца. Дамавік не любіць таксама і бруду ў хляве, таму тут трэба прыбіраць, не дапускаючы вялікай гразі.

У хляве могуць з'явіцца і іншыя нячысцікі. Напрыклад, Кадук. Гэта самы старэйшы злы дух. Сам ён жыве ў лясным гушчары, у самым багністым балоце, але па начах наведваецца ў вёску, дзе забіраецца ў чый-небудзь хлеў, залазіць на каня ці карову і заязджае іх да мокрай пены. Сродак, каб адвадзіць Кадука мучыць жывёлу, такі. Трэба ўзяць галень (спрацаваны венік), запэцкаць яго якім-небудзь брудам і біць ім па храбце худобы, на якую ўзабраўся нячысцік, прыгаворваючы: "Які госць, такая й чэсць".

Можа псаваць жывёлу ў хляве таксама так званы Кумяльган — злы дух з чалавечым тулавам і конскай галавой. А яшчэ Мара — вялізная жахлівая істота, якая пры руху выдае нейкі металічны гук, быццам хто ўдарае ў чыгунны кацёл. Сродак ад гэтай нечысці, таксама як супраць Дамавіка, забіць і павесіць у хляве сароку. Часам жа кладуць на парозе накрыж мятлу і сякеру, якія, як думалі, могуць не дапусціць нячысціка ў хлеў.

Менавіта таму, што ў хляве жыве нячыстая сіла, ён часта з'яўляўся месцам, дзе праводзілася розная варажба. Так, на Калядах дзеўкі ішлі ў абору, перад гэтым спёкшы вялікі блін, кожная з дзяўчат адломвала ад яго частку і, не запальваючы святла, карміла ім жывёлу. Потым уносілі агонь і глядзелі, каго карміла дзяўчына. Калі гэта быў бык, то значыць дзяўчына пойдзе замуж, калі ж — карова, то засядзіцца ў дзеўках.

Варажылі яшчэ па-іншаму. У цёмным хляве мацалі карову: калі схопіш за шарсцісты бок — муж будзе багаты, калі за хвост — хвастун, за рог — голы, бедны.

Дзеля таго, каб дзяўчыне прываражыць хлопца, трэба было ісці да хлява сядзібы, дзе ён жыў, і закапаць пад хлеў спецыяльны састаў з цвету розных дрэў. Рабілася гэта на першы дзень Вялікадня.

Трэба сказаць, што ў глыбокай старажытнасці беларусы не мелі спецыяльных хлявоў, жывёлу звычайна трымалі ў сянях, зімой жа ў маразы маладняк нярэдка забіралі ў хату. Паступова з развіццём жылля хлеў выдзяліўся як асобнае памяшканне. Сустракаліся хлявы, якія аб'ядноўваліся з хатай у агульны комплекс, і хлявы як адасоблена пастаўленыя пабудовы. Часцей за ўсё хлеў меў адзіную прастору, якая перагароджвалася на асобныя часткі для розных відаў жывёл. Па планіроўцы хлявы маглі мець лінейную, "Г"-падобную, "П"-падобную і замкнутую кампазіцыю.

Звычайна хлявы будавалі з горшага гатунку, таму што добрае дрэва было дарагое. Часам сцены хлява рабілі плеценыя з лазы са слупамі ў кутах. Радзей сцены былі глінабітнымі. Пакрывалі хлявы саламянай страхой. Над функцыянальнай прасторай хлява звычайна рабілі вышкі, якія служылі як для захавання сена, так і для ўцяплення памяшкання на халодны перыяд года. Падлогу ў хлявах не рабілі, за выключэннем Палесся, дзе часам клалі насціл з жардзін, які павінен быў дапамагчы пры паводцы.

Хлявы ў Беларусі не аздабляліся ніякімі дэкаратыўнымі элементамі, толькі ў заходніх раёнах часам можна было сустрэць здвоеныя вільчыкі на страсе пабудовы.

Такім чынам, мы бачым, што памяшканні, дзе знаходзілася свойская жывёла, карысталіся вялікай увагай у селяніна. Тут праводзіліся розныя абрадавыя дзеянні, якія павінны былі паўплываць на здароўе і пладавітасць худобы, абараняць гаспадары хлеў рознымі заклінаннямі і магічнымі рытуаламі, каб жывёлу не пашкодзілі благі чалавек, драпежнік ці "нячыстая сіла". Канешне, можна сказаць: перажыткі, забабоны, — але справа ў тым, што ва ўсім гэтым прысутнічала вялікая любоў, як мы цяпер кажам, да сваіх "братоў меншых", да свойскай жывёлы, карміцелькі сялянскай сям'і. Конь ці кароўка былі сябрамі, памочнікамі ў нялёгкім вясковым жыцці.

Вясёлым, гучным спевам заліваўся раніцаю ражок пастуха. Спяшаліся гаспадыні выгнаць у статак сваіх каровак. Няспешна, пахістваючы бакамі, выходзілі яны з драўляных варот сядзіб і, перагукаючыся сваім лянівым "му-у-у", цягнуліся ў поле насустрач узыходзячаму з-за лесу сонейку. Вясёлы ж ранішні прамень слізгаў па саламянай страсе хлява, прабягаў па цёмных бярвёнах сцен і, зазірнуўшы ў адчыненыя дзверы аборы, высвечваў апусцелае стойла. Пройдзе дзень, сядзе сонейка, і карова, вярнуўшыся з поля, ізноў зойме сваё месца ў хляве, гатовая аддаць гаспадыні сваё белае, цёплае малако. А гаспадыня, мякка пагладжваючы тугое каровіна вымя, пачынае даіць сваю Лысуху, шэпчучы ёй нешта ласкавае, пяшчотнае. Кароўка ж, задуменна жуючы, будзе прыслухоўвацца да ціхага шэпту жанчыны, быццам і праўда разумеючы словы гаспадыні... Але пагасла неба над хлявом, у глыбокай чорнай вышыні з'явіліся срэбныя зоркі. Заўтра ізноў дзень, ізноў раненька выганяць кароўку ў поле, ізноў праца па гаспадарцы. Штодзённыя сялянскія клопаты...

**Якаў ЛЕНСУ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

*На ілюстрацыях: хлеў з плеценымі з лазы сценамі; вялікі хлеў, ці інакш абора; хлеў у вяночнай забудове двара.*

**Малюнкі аўтара.**

***Адказы на крыжаванку "Культура" змешчаную ў № 23.***

**Па гарызанталі:**
1. "Суд"; 3. Арка; 7. Маланка; 11. Персона; 15. Ружа; 17. Талія; 20. Руна; 21. Клас; 23. Арэс; 24. Гравітацыя; 25. Адрас; 26. "Хам"; 27. Баніцыка; 28. Краявід; 29. Ісаевіч; 30. Секста; 31. "ЛіМ".

**Па вертыкалі:**
2. Уверцюра; 5. Амплуа; 6. Салынскі; 9. Акадэмік; 10. Адукацыя; 11. Пуга; 12. Смольскі; 13. Аналаг; 14. Пашкевіч; 15. Рэверанс; 16. Афелія; 19. Ільінскі; 22. Слайд.

**Па зігзагу:**
4. "Рыгалета"; 8. Акустыка; 18. Акванаўт.

К КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Галоўны рэдактар — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА (рэдактар аддзела), Ігар КЛОКАЎ (рэдактар аддзела), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Алена ПІСЬМЯНКОВА (рэдактар аддзела), Міхаіл ПТАШУК, Алег ТРУСАЎ, Юрый ЦВЯТКОЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — Жанна ВАСАНСКАЯ, Барыс КРЭПАК
Спецкарэспандэнты: Міхась БАШУРА, Змітрэр ВІШНЁЎ, Сяргей МІНСКЕВІЧ
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — Генадзь ЖЫНКОЎ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66
Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3450.
Падпісана ў свет 19.06.97. у 16.00.
Замова 3561
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.